2 снежня 2016 | № 46 (511)

# Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

**Усе супраць Рэнцы**
стар. 9

**5** КАБ БОЛЬШ ЗАРАБЛЯЦЬ, ТРЭБА МЕНШ СПАЦЬ



**6–7** НКУС ЗАБІВАЎ У КУРАПАТАХ, НАВАТ КАЛІ НАЦЫСТЫ ЎВАЙШЛІ Ў МІНСК

Ля самых Курапатаў з 1939 года стала жыве сведка шматлікіх падзеяў у лясным урочышчы — 81-гадовая спадарыня Лідзія



**10** БЕЛАРУСКІ «LIFE»

Часопіс «Чырвоная Беларусь» выходзіў у 1930–1933 гадах у Мінску. Выданне было заснавана Саюзам пісьменнікаў Беларусі

**Да Новага года вы яшчэ паспееце падпісацца на «Новы час» па старых коштах**



# Абысці Расію бокам

## Лукашэнка ўжо не спадзяецца на «стратэгічнага саюзніка»



Сяргей ПУЛЬША




У Расіі скончыліся грошы. Відавочна, што перамовы Пуціна і Лукашэнкі, якія прайшлі 22 лістапада, ні да чаго не прывялі. Беларусі трэба шукаць новых саюзнікаў і партнёраў. Яны знайшліся.

Ці не адразу пасля сустрэчы з Пуціным Лукашэнка паехаў да Аліева. Шмат хто кажа, што беларускі правадыр проста ездзіць па свеце ў пошуках новых крэдытаў. І, відавочна, ён памятае, хто ў 2010-м даў 200 мільёнаў долараў «да заробку». Гэта быў Азербайджан. Той крэдыт мы аддалі дакладна ў тэрмін.

Але ці толькі за грашыма паехаў кіраўнік? Насамрэч, у адносінах Азербайджана і Беларусі вельмі шмат цікавых аспектаў, пра якія, толькі прыглядзеўшыся бліжэй, узгадваюць аналітыкі.

Найперш «нашае ўсё» — нафта. Зразумела, мы зацікаўленыя ў тым, каб на перапрацоўку на нашы НПЗ яна паступала беспераპынна. Ад Расіі такога чакаць мы ўжо не можам: яна абстаўляе свае пастаўкі шэрагам умоў, якія могуць змяняцца ў працэсе гульні. Узяць той жа нядаўні нафтагазавы канфлікт: з-за недаплаты Беларусі «Газпраму» былі скарочаныя пастаўкі нафты, хаця ніводзін кантракт не ўвязваў аплату за газ і аб'ёмы нафты. У выніку Расія за студзень — верасень паставіла нам толькі 15,1 мільёна тон вуглевадародаў — пры гадавым балансе ў 24 мільёны тон.

Нафта ёсць у Азербайджана, і цалкам лагічна Лукашэнка зрабіў прапанову перапрацоўваць яе на беларускіх НПЗ. Тым больш, як высвятляецца, тэставая партыя ў 85 тысяч тон азербайджанскай сыравіны ўжо была апрацаваная ў кастрычніку ў Мазыры.

Супрацоўніцтва Беларусі і Азербайджана ў нафтавай сферы, як ні дзіўна, можа палепшыць нашы адносіны з Украінай. Кіеў вельмі пакрыўдзіў за нашу спробу заблакаваць у ААН чарговую антымаскоўскую рэзалюцыю па правах чалавека ў Крыме. І нават збіраецца пазбавіць Мінск статусу перамоўнай пляцоўкі па Данбасе.

**Наколькі далёка Крэмль дазволіць зайсці Лукашэнку ў пазбаўленні залежнасці ад Расіі?**

Калі з азербайджанскай нафтай усё атрымаецца, то такім чынам мы загрузім нафтаправод «Адэса — Броды». Паўтараецца сітуацыя пачатку 2014-га, калі на словах Лукашэнка казаў пра «дэ-факта расійскі» Крым, а на справе Беларусь літаральна залівала Украіну палівам для танкаў, авіяцыйным бензінам для знішчальнікаў, рамантавала верталёты Узброеных сіл Украіны і пастаўляла МАЗы для ўкраінскага войска… Тое ж будзе і зараз: з аднаго боку — ААН, з іншага — сотні працоўных месцаў для ўкраінцаў і плюс аплата за транзіт нафты з Азербайджану.

Некаторыя вайсковыя аналітыкі кажуць, што Азербайджан зацікаўлены ў беларускай зброі. Найперш кажуць пра новыя беларускія комплексы «Паланэз». Сапраўды, няма прычын, каб іх не прадаваць, калі попыт маецца. Але тут ёсць адно «але». У Азербайджана перманентны канфлікт з Арменіяй з-за Нагорнага Карабаху. І вядома, што Расія дала армянам «Іскандэры».

У выпадку абвастрэння канфлікту (не дай Божа!) да «ракетнай фазы», мы здолеем пабачыць супернiцтва тэхнікі двух «саюзнікаў»: РСЗА «Паланэз» і АТРК «Іскандэр». І не факт, што на адносна блізкай адлегласці «Іскандэры» будуць больш эфектыўныя…

Яшчэ адна сфера ўзаемных інтарэсаў — «Новы Шаўковы шлях» у абыход непрадказальнай Расіі. Сёлета, напрыклад, Расія забараніла транзіт з тэрыторыі Украіны ў Казахстан і Кыргызстан. Больш за тое, яна ўводзіць абмежаванні транзіту не толькі для грузаў агулам, але і для асобных катэгорый тавараў. З-за гэтага ўкраінскіх цукерак не атрымалі грузіны і азербайджанцы.

Маршрут «Новага Шаўковага шляху» можа ісці з балтыйскіх партоў да Адэсы, потым па Чорным моры праз Батумі ў Баку, і далей — па тэрыторыі Казахстану ў Кітай. Гэта, канешне, складаная схема, але ў тэставым рэжыме яна ўжо была апрабаваная ў 2015 годзе. Тэст паказаў: рэалізацыя гэтага маршруту магчымая пры адпаведнай эканамічна мэтазгоднай загрузцы. Беларусь знаходзіцца на гэтым маршруце, мае падвязкі ў балтыйскіх партах, і, натуральна, можа выступіць лабістам для краін Балтыі і Польшчы. Гэта адпавядае інтарэсам і Азербайджана, і Беларусі.

Як бачым, карыснага ў сувязі Беларусі і Азербайджана, насамрэч, шмат. І кіраўнікі да чагосьці дамовіліся. Да чаго канкрэтна — пакуль не вядома, але Ільхам Аліеў узнагародзіў Лукашэнку ордэнам імя свайго бацькі, Гейдара Аліева. Гэтая вышэйшая ўзнагарода Азербайджана проста так не даецца: за 11 гадоў існавання былі ўзнагароджаны толькі 17 чалавек. Лукашэнка стаў 18-м.

Не вырашанае толькі адно пытанне: як на гэта адрэагуе Масква? Так ці інакш, усе беларуска-азербайджанскія праекты аб'ектыўна не тое, каб разыходзяцца з інтарэсамі Расіі, — яны ўвогуле абыходзяць РФ бокам. Наколькі далёка Крэмль дазволіць зайсці Лукашэнку ў пазбаўленні ад эканоміка-энергетычнай залежнасці ад Расіі?

# Рабства ў Беларусі набірае сілу

Станіслаў ПАЎЛІНКОВІЧ

**Закон аб дармаедстве ўзаконьвае яшчэ адну прытоеную форму рабства. Калі раней дасылалі паперы пра дармаедства грамадзянам, якія часова не працуюць, то зараз ужо дасылаюць і тым, хто мае працу.**

Доўгім і беспаспяховым апынуўся мой пошук працы па сваёй спецыяльнасці эканаміста. Доўгім, таму што патрабаваўся досвед працы, якога ў мяне не было пасля заканчэння інстытута. Пасля звальнення з дзяржпрадпрыемства зімой 2014 года, я адправіўся на Поўнач Расійскай Федэрацыі. Праца мне падабалася, аднак клімат апынуўся не спрыяльным для майго здароўя. Не адбыўшы вахту да канца, я адправіўся ў Беларусь у надзеі зарабляць на жыццё ў сябе на радзіме. Аднак калі пачаў пошук працы, дык гэта, да майго глыбокага здзіўлення, аказалася складанай задачай. На мностве прадпрыемстваў Магілёва, якія я абышоў, адказвалі адно і тое ж: «У нас скарачэнні, для сваіх працы няма». Хадзіў таксама і па вакансіях з біржы працы — апынулася, што каля 80% з іх несапраўдныя. Вакансіі былі толькі фармальна і на паперы. Як я зразумеў, для галачкі... З цяжкасцю ўладкаваўся на працу ў чэрвені 2016-га. На днях атрымаў ліст, што я дармаед. На думку беларускага рэжыму, чалавек, які шукае працу, не маючы магчымасцяў уладкавацца ў дзяржаве з нізкім узроўнем эканомікі і мноствам стратных прадпрыемстваў, — гэта дармаед.

Той, хто напісаў гэты закон, парушыў Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь — вышэйшы закон краіны. У артыкуле 41 грамадзянам Рэспублікі Беларусь гарантуецца права на працу як найбольш годны спосаб самасцвярджэння чалавека, гэта значыць, права на выбар прафесіі, роду занняткаў і работы ў адпаведнасці з прызваннем, здольнасцямі, адукацыяй, прафесійнай падрыхтоўкай і з улікам грамадскіх патрэбаў, а таксама на здаровыя і бяспечныя ўмовы працы. Прымусовая праца забараняецца, акрамя работы або службы, якая вызначаецца прыгаворам суда або ў адпаведнасці з законам аб надзвычайным і ваенным становішчы. Таксама Беларусь уступіла ў Сусветную арганізацыю працы, Канвенцыя якой адзначае, што «прымусовая ці абавязковая праца» — усялякая праца або служба, якая патрабуецца ад якой-небудзь асобы пад пагрозай якога-небудзь пакарання, для выканання якой гэтая асоба не прапанавала сваіх паслуг добраахвотна.

Па-сутнасці, Беларусь становіцца краінай, дзе ўводзіцца падатак на жыццё. І тыя, хто павінен служыць людзям, занявольваюць іх, пeратвараючы ў прыгонных сялян. Лічу гэта здрадай і злачынствам супраць нашага народа, то бок самым што ні ёсць генацыдам. Фраза, сказаная нябожчыкам Юрыем Захаранкам: «Гэты рэжым горш фашысцкага», сёння як ніколі актуальная.

Я вымушаны звярнуцца да праваабаронцаў, каб абараніць сваё права на працу, гарантаванае мне вышэйшым законам краіны. Паколькі ў нас у краіне няма законна абранай улады з 1996 года, звяртаюся да астатніх «дармаедаў»: не дазваляйце незаконным «слугам народа» парушаць вашы правы. Змагайцеся з гэтым злом. Разам мы пераможам!

Жыве Беларусь!

# Беларусь у «Русский мир»

**Са сваіх крыніц нам стала вядома, што 24 снежня ў Мінску плануецца правесці круглы стол, тэма якога — «Русский мир и место Беларуси в нём».**

Мерапрыемства павінна прайсці ў канферэнц-зале гатэля «Спутник». Арганізатар дэбатаў — «Беларускі славянскі камітэт», арганізацыя, якая ставіць за мэту аб'яднанне ўсіх славян у агульнай славянскай канфедэрацыі на грунце сацыялістычнай ідэалогіі, а таксама ідэалогіі антыглабалізму, супрацьстаяння з Захадам і ліберальнымі ідэямі.

Ініцыятарам правядзення круглага стала выступіў Сяргей Касцян, былы дэпутат Палаты прадстаўнікоў, а сёння — старшыня «Беларускага славянскага камітэту». На мерапрыемства запрошаны 15–20 удзельнікаў, галоўны дакладчык — доктар філасофіі, прафесар Леў Крыштаповіч. Ён, дарэчы, добра вядомы не толькі сваімі прарасійскімі поглядамі, але і тым, што да нядаўняга часу працаваў намеснікам дырэктара Інфармацыйна-аналітычнага цэнтра (ІАЦ) пры Адміністрацыі прэзідэнта. Прычым, ён прадстаўляў гэтую структуру на шматлікіх публічных мерапрыемствах.

Цікава тое, што Сяргей Касцян — абсалютны і безумоўны прыхільнік Аляксандра Лукашэнкі. Але ж, як мы ведаем, Лукашэнка за апошнія два гады неаднаразова крытычна выказваўся на адрас «русского мира». І ніводнага разу не ўхваліў гэтую ідэалогію. Чаму сёння Сяргей Касцян раптам узяўся прасоўваць ідэю «русского мира» — пакуль загадка.

# Дыялог з прыкметамі лагарэі

Раман ЯКАЎЛЕЎСКІ, спецыяльна для НЧ

**Адносіны паміж Мінскам і ЕС у лістападзе прайшлі ў актыўным рэжыме дыялогу. Пілігрымка разнамасных гасцей з Еўропы — сведчанне таму. Танальнасць зносін выглядала аптымістычна.**

Праўда, крытыка афіцыйнага Мінска ў прынятай рэзалюцыі Еўрапарламента закліканая была нейкім чынам ацвярозіць аптымістаў цяперашняй нармалізацыі адносін паміж ЕС і Беларуссю, рэжым якой застаецца са сваёй нязменнай, «ненахіляльнай» палітыкай. У МЗС Беларусі заявілі, што гэты дакумент наносіць шкоду далікатнай нармалізацыі адносін Мінска і Брусэля.

А тым часам прадстаўнікі беларускага рэжыму працягваюць нагадваць сваім слухачам, што гэта не Беларусь, а Захад змяніўся ў дачыненні да яе незалежнай палітыкі. І сапраўды, да своеасаблівага разумення Мінскам еўрапейскіх базавых каштоўнасцяў (правы чалавека, дэмакратычныя выбары, незалежныя медыя і г.д.) у Брусэлі, ды і іншых еўрасталіцах, у апошні час пачалі ставіцца настолькі гнутка, што сталі блытаць прагматызм з цынізмам, часам адкрыта дэманструючы сваё раздражненне ад актыўнасці беларускіх праваабаронцаў і прынцыповых апазіцыянераў.

Еўрачыноўнікі ўжо аддаюць перавагу кулуарным, з прысмакам цынізму, адносінам з апалагетам беларускага рэжыму і яго фэйкавымі НДА. Створаны такі боскі ландшафт узаемаадносін, які не абяцае Беларусі ніякага прагрэсу ў бок Еўропы. А ў дыялогу — то Мінскім, то Брусэльскім — усё часцей сталі выяўляцца прыкметы лагарэі. Да такіх характарыстык пачалі прыходзіць некаторыя назіральнікі, якія часам апынаюцца блізкімі да гэтага працэсу без бачных вынікаў сістэмных зменаў.

Усе рэпрэсіўныя механізмы кіруючага рэжыму ў Беларусі, якія яшчэ нядаўна так крытыкавала аб'яднаная Еўропа, застаюцца ў сіле. І часам нават ствараецца ўражанне, што гэтыя механізмы могуць мадэрнізавацца за кошт матэрыяльнай дапамогі ЕС, ствараючы тым самым ілюзіі адаптацыі да еўрапейскіх стандартаў. Па некаторых дадзеных, такога роду аптымізм прысутнічае сярод немалой колькасці еўрачыноўнікаў, адказных за адносіны з Беларуссю.

Сёння, бадай, самым бачным каменем спатыкнення ў двухбаковых адносінах з ЕС стала пытанне прымянення смяротнага пакарання. Варта нагадаць, што Беларусь застаецца адзінай краінай у Еўропе, дзе яно дзейнічае. Здавалася б, у якасці кампрамісу мог бы стаць, як у Расіі і многіх іншых краінах СНД, мараторый на смяротнае пакаранне. Аднак Лукашэнка, ад пазіцыі якога залежыць у краіне ўсё, на гэта не ідзе. Такія паводзіны ўспрымаюцца як звычайны гандаль з ЕС за яшчэ большыя выгады, вядомыя толькі яму самому.

Што тычыцца змяненняў выбарчага заканадаўства, пра якія ўжо не адзін год кажа ЕС, то яны і зусім уяўляюцца нерэальнымі ва ўмовах існуючага рэжыму. Не варта сумнявацца, што Лукашэнка выразна засвоіў наступствы гарбачоўскай галоснасці. А ўжо ўкраінскія майданы, якія стымуляваліся праеўрапейскімі настроямі мас, і зусім здольныя ўзбуджаць хваравітую бяссонніцу беларускага ды іншых постсавецкіх кіраўнікоў. І яны гатовыя падоўжыць сваё палітычнае даўгалецце за кошт сваіх тых ці іншых знешнепалітычных ініцыятыў кшталту «інтэграцыя інтэграцый», а то і зменай Хельсінкскага працэсу на Мінскі.

Трэба так разумець, што калі Хельсінкскі саміт замацаваў пасляваенныя еўрапейскія рэаліі (межы), то прапанаваны Лукашэнкам (кажуць, з падачы Пуціна) Мінскі працэс заклікаы пераварыць у юрыдычную рэальнасць цяперашнія дзяржаўныя межы. У тым ліку і тыя, што ўзніклі ў самаабвешчаных, непрызнаных, анексіраваных утварэннях на постсавецкай прасторы. Па словах некаторых еўрачыноўнікаў, якія ўдзельнічалі ў рэанімацыі германа-беларускага Мінскага форума, гэтыя ды іншыя прапановы афіцыйнага Мінску сталі ўважліва вывучаць у Брусэлі і іншых еўрасталіцах.

Як уяўляецца, іх сур'ёзны разгляд, абмеркаванне, у пэўнай ступені будзе залежаць ад вынікаў выбараў у Германіі і Францыі ў наступным годзе. А таксама, магчыма, пасля інаўгурацыі прэзідэнта ЗША Дональда Трампа. Пасля гэтага павінна стаць яснай еўрапейская палітыка ЗША. Бо ад яе чакаюць канкрэтыкі без дэкларацый з прыкметамі лагарэі.

# Адмяніць артыкул 411

Арцём ЛЯВА

**Адбыўся круглы стол, прысвечаны артыкулу 411, які прадугледжвае крымінальнае пакаранне за дысцыплінарныя парушэнні вязняў беларускіх турмаў.**

У яго працы прынялі ўдзел Алег Волчак, Ганна Шапуцька, Людміла Гразнова, Алесь Марчанка, Кацярына Садоўская, Вольга Мікалайчык, Міхаіл Пастухоў, Алесь Макаеў, Юлія Фралова, Вольга Маёрава.

Грамадскія актывісты і праваабаронцы перакананыя, што ўлады павінны прыбраць артыкул 411 з КК («злоснае непадпарадкаванне патрабаванням адміністрацыі папраўчай установы, што выконвае пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі»), як не адпавядаючы беларускаму заканадаўству ў сферы правоў чалавека і міжнароднаму праву. А пакуль будуць распрацоўвацца папраўкі ў КК, патрэбна абвесціць мараторый на выкарыстанне артыкула 411.

Актуальнасць гэтай тэмы прадыктаваная тым, што Андрэю Бандарэнку, які адбывае пакаранне ў Магілёўскай турме №4, пагражаюць дадатковыя два гады зняволення. Шэраг праваабарончых арганізацый ужо зрабілі заяву, што ў выпадку пакарання Бандарэнкі судом паводле артыкула 411, яны будуць лічыць яго палітвязнем.

Прычын лічыць артыкул 411, які дастаўся нашаму Крымінальнаму кодэксу ад савецкіх часоў, не адпавядаючым прававым нормам шмат.

Гэты артыкул у савецкі час на законных падставах, але неправавым чынам дазваляў кантраляваць паводзіны крымінальных аўтарытэтаў у вязніцах і нават неабмежавана падаўжаць іх тэрміны зняволення. У большасці краінаў былога СССР артыкул адменены (застаўся ў Беларусі, Казахстане і Узбекістане), бо ён парушае права чалавека не быць пакараным двойчы за адно злачынства.

«Калі хочуць зрабіць з вязня «злоснага парушальніка», вельмі часта яго абвінавачваюць у тым, што той не рабіў, альбо правакуюць яго на дзеянні, якія настройваюць вязня супраць усёй калоніі. Чалавек не паддаецца на правакацыю — яму прыпісваюць усялякія парушэнні», — распавёў бацька Андрэя Валеры Бандарэнка.

Удзельнікі круглага стала таксама звярнулі ўвагу на той аспект, што судовыя працэсы паводле артыкула 411 праходзяць на тэрыторыі рэжымнага аб'екту, часта без прысутнасці абвінавачанага, яны фактычна закрытыя ад грамадскасці.

Удзельнікі круглага стала па выніках яго працы падпісалі зварот, адрасаваны спецдакладчыку па сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі, Камітэту ААН, Палаце прадстаўнікоў, Прадстаўніцтву ЕС, палітычным партыям і аб'яднанням, а таксама ўсім грамадзянам. У ім апісваецца сітуацыя, якая склалася вакол вязняў Андрэя Бандарэнкі і Міхаіла Жамчужнага, а таксама ставіцца пытанне пра выключэнне артыкула 411 з Крымінальнага кодэкса.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Выйсці з матрыцы

Сяргей САЛАЎЁЎ

**«Планавалі, планавалі ды не выпланавалі», — прыкладна так можна ахарактарызаваць дзейнасць нашага ўраду. Атрымаўшы рэалістычны бюджэт, міністры зноў заняліся псаваннем паперы.**



Фота www.therealityfiles.com

Як паведаміла прэс-служба Саўміна, праект пастановы гэтага органа «Аб рэалізацыі задач сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь на 2017 год» быў разгледжаны 29 лістапада падчас пасяджэння прэзідыума, якое прайшло пад старшынствам прэм'ера Андрэя Кабякова.

Кіраўнік урада паведаміў прысутным, што ў кастрычніку кіраўнік дзяржавы падпісаў Указ пра задачы сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны на 2017 год. У гэтым дакуменце вызначаны найважнейшыя параметры прагнозу, іх колькасныя арыенціры і сфармуляваны мэтавыя задачы на наступны год.

«Даручана выбудаваць поўную матрыцу персаніфікаваных пакватральных задач на 2017 год, мабілізаваць усю вертыкаль улады на дасягненне канкрэтных вынікаў. Ад урада і аблвыканкамаў патрабуецца арганізаваць працу кіраўнікоў усіх узроўняў, нацэліўшы іх на павышэнне эфектыўнасці вытворчасці тавараў і паслуг, зніжэнне выдаткаў, нарошчванне і дыверсіфікацыю экспарту, стварэнне новых працоўных месцаў, прыцягненне прамых замежных інвестыцый, а таксама вырашэнне іншых прыярытэтаў сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны», — падкрэсліў Андрэй Кабякоў.

Прэм'ер заявіў, што пры фарміраванні прагнозу на 2017 год вызначана структура прыросту ВУП. «Палова — за кошт росту прадукцыйнасці працы на дзеючых прадпрыемствах, істотнага скарачэння выдаткаў, укаранення новых тэхналогій і ўдасканалення сістэмы кіравання, больш актыўнай і агрэсіўнай працы на знешніх рынках. Другую палову прыросту эканомікі плануем атрымаць за кошт так званай «новай эканомікі». Фактычна гэтая задача вырашаецца праз развіццё малога і сярэдняга бізнесу, стварэнне новых прадпрыемстваў, новых працоўных месцаў, прыцягненне замежных інвестыцый. На гэтым грунтуюцца і мэтавыя задачы ў прадстаўленым праекце пастановы», — адзначыў Андрэй Кабякоў.

Што мы выносім з гэтай трасклтні ў сухім астатку? Лукашэнка даручыў ураду стварыць матрыцу. Не як у знакамітай трылогіі братоў (зараз ужо сёстраў, бо яны змянілі пол) Вачоўскіх — з Нэа, Трыніці і агентам Смітам, а план па вырашэнні праблем эканомікі. Урад жа, гледзячы па ўсім, праглынуў сінюю пігулку і заглыбіўся ў віртуалку.

«Мабілізаваць усю вертыкаль», «арганізаваць працу кіраўнікоў», «нацэліць іх» і гэтак далей — звыклая спроба пакіраваць эканомікай у камандна-адміністрацыйным стылі. Ужо ад каго гэтага не чакалі, дык ад Кабякова. Нарэшце, што гэта за кіраўнікі такія, што іх трэба «нацэльваць», «арганізоўваць» і «мабілізоўваць»? Не кіраўнікі, а нейкі офісны планктон. Навошта нам такая «вертыкаль»? Можа, лепей іх проста замяніць на тых, хто будзе працаваць, — на ўжо нацэленых і мабілізаваных?

А «структура прыросту ВУП» па Кабякову ўжо ўвогуле аскому набіла. Гэта штогод паўтараецца не меней за дзесяцігоддзе, а вынікаў — пшык. Ці спадар Кабякоў гэтымі заклінаннямі спрабуе вызваць джына, які ўсё гэта зробіць? Ці (чаму я кажу пра сінюю пігулку) разлічвае, што такія «крэкс-пэкс-фэкс» раптам зменяць рэальнасць, як Нэа змяняў матрыцу — па сваім жаданні і разуменні?

Сто разоў гаворана: укараненне новых тэхналогій і за іх кошт скарачэнне выдаткаў, стварэнне новых прадпрыемстваў і працоўных месцаў немагчымае без замежных інвестыцый. Каб былі інвестыцыі, патрэбны адпаведны клімат. А які клімат можа быць у краіне з правам «залатой акцыі» ў дзяржавы? Вы паглядзіце спачатку, колькі бізнесоўцаў за гэты год праз турму КДБ прайшло, а потым пра інвестыцыі разважайце.

Для таго, каб «задача вырашалася праз развіццё малога і сярэдняга бізнесу», трэба, каб гэты бізнес спачатку быў — каб было што развіваць. А прадпрымальнікаў у краіне заціснулі па самае не магу. З пачатку года спынілі сваю дзейнасць больш за 30 тысяч прадпрымальнікаў, а ўказ №222, які іх заціснуў, так і не адменены.

Але самае цікавае, што сказаў Кабякоў: «для фармавання поўнай і правільна структураванай матрыцы» ён папрасіў «актыўна ўключыцца ў гэтую працу» наш любімы Белстат. То бок, хаця б у лічбах неяк суаднесці тую матрыцу з рэальнасцю.

Пакуль што, сапраўды, гэтае ведамства пігулак не глытала, і спрабуе ацвярозіць чыноўнікаў, кажучы, што настаюць новыя 1990-я. Прынамсі, беларусы, як тады, імкліва бяднеюць. Па дадзеных Белстата, у трэцім квартале гэтага года за мяжой беднасці апынуліся амаль 158,8 тысячы хатніх гаспадарак. У папярэднім квартале штомесячны даход не перавышаў бюджэт пражытачнага мінімуму (нацыянальную рысу беднасці) у 151,1 тысячы сем'яў. То бок 7700 сем'яў апусціліся за мяжу беднасці толькі за тры месяцы!

У рэальным свеце мы сапраўды вярнуліся нават не ў 1990-я, а ў пачатак перабудовы, страціўшы самае дарагое — час на развіццё. Усё больш нашы ўрадаўцы пераптвараюцца ў Міхаіла Сяргеевіча Гарбачова з яго заклікамі «пашырыць, паглыбіць, палепшыць». Эканаміст Леанід Заіка знайшоў лічбы «ліхіх 90-х» — мы не дацягваем нават да іх. «У 1991 годзе ў Беларусі і Эстоніі быў самы высокі ВУП на душу насельніцтва сярод краін былога СССР — 4900 долараў. Тады разлікі рабіла ЦРУ, якое цяжка западозрыць у асаблівай любові да Беларусі. Сёння ВУП на душу насельніцтва складае 4470 долараў — гэта менш за паказчык 1991 года», — адзначае эксперт.

«За 25 гадоў мы зрабілі кола. 25 гадоў у ацэнках эканамістаў — час жыцця трох пакаленняў, такі генерацыйны інструмент. Скажу як навуковец: мы вярнуліся ў 1991-ы год. У мяне пытанне: хто адкажа за 25 страчаных гадоў?» — кажа Заіка. Сапраўды ж, за краіну крыўдна...

Ну і, каб ад пасяджэння Саўміна быў бы хоць які вынік, урад прыняў пастанову пра тое, што з 1 студзеня 2017 года базавая велічыня падымаецца з 21 рубля да 23-х. Гэта азначае не рост дабрабыту насельніцтва, а яго збядненне, бо ў «базавых» вылічваюцца падаткі, штрафы, зборы і гэтак далей. Плаціць будзем больш, а зарабляць — менш.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Андрэй Бандарэнка

**Праваабаронцам стала вядома, што вязню сумлення, былому кіраўніку праваабарончай арганізацыі «Платформ Інавэйшн» могуць прысудзіць яшчэ адзін тэрмін.**

Магілёўскім міжраённым аддзелам Следчага камітэта ў дачыненні да Андрэя Бандарэнкі ўзбуджаная справа па часткі 2 артыкула 411 Крымінальнага кодэкса (злоснае непадпарадкаванне патрабаванням адміністрацыі папраўчай установы).

Бандарэнка павінен быў быць выйсці на свабоду 31 сакавіка 2017 года, аднак новыя абвінавачванні могуць прывесці да паўторнага асуджэння тэрмінам да двух гадоў пазбаўлення волі.

Бандарэнка ўжо амаль год знаходзіцца ў турме №4 Магілёва ў адзіночнай камеры. Як у такіх умовах ён мог «злосна непадпарадкавацца патрабаванням адміністрацыі» — загадка.

Беларускія праваабарончыя арганізацыі ўжо асудзілі ўзбуджэнне новай справы супраць Бандарэнкі, кваліфікаваўшы паўторны крымінальны пераслед як «форму палітычна матываванага ціску, звязанага з яго (Бандарэнкі) ранейшай праваабарончай дзейнасцю». У выпадку асуджэння па новым абвінавачванні «крытэрыі, якія прымяняюцца намі, будуць дазваляць кваліфікаваць яго як палітычнага вязня», папярэджваюць праваабаронцы.



## Алег Трусаў

**Кіраўнік Таварыства беларускай мовы (ТБМ) імя Францішка Скарыны вырашыў пакінуць сваю пасаду.**

Сваё рашэнне Алег Трусаў агучыў на чарговым пасяджэнні Рады ТБМ, якой было даручана разгледзець магчымых кандыдатаў на пасаду старшыні арганізацыі.

Прыйшоў час даць дарогу маладым, абгрунтоўвае сваё рашэнне Алег Трусаў. «Тое, што я не буду балатавацца на старшыню, — гэта на 100%. Тым больш, што тры гады таму я абяцаў. І свае абяцанні я выконваю. Ёсць у мяне некалькі варыянтаў, хто мяне заменіць. Можа, нават не адзін, а двое, каб была нейкая канкурэнцыя. Паглядзім. Паслухаем усе прапановы. Я адмыслова нікога не хачу называць, каб не думалі, што Трусаў навязвае», — паведаміў ён.

Зараз адным з галоўных прыярытэтаў дзейнасці ТБМ Алег Трусаў лічыць дапамогу дэпутату Палаты прадстаўнікоў Алене Анісім у справе папулярызацыі беларускай мовы праз парламенцкія структуры.

Трусаў займае пасаду старшыні ТБМ з 1999 года.



## Станіслаў Шушкевіч

**Першы кіраўнік незалежнай Беларусі і лідар Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады думае пра закрыццё БСДГ.**

«Мы проста не цягнем аплату памяшканняў, — распавядае Станіслаў Шушкевіч. — І няма з каго збіраць унёскі. Людзі губляюць працу, менш зарабляюць. А мы стараемся добрасумленна плаціць. І ў адзін цудоўны момант мы зразумелі, што больш не цягнем. Гэта суровая праўда жыцця».

Па беларускім заканадаўстве, легальная партыя павінна мець цэнтральны офіс і офісы ў рэгіёнах. То бок, як мінімум шэсць афіцыйных памяшканняў, і ўсе па камерцыйным кошце. БСДГ арэнду «не цягне», бо прынцыпова працуе па законе: унутраныя ўнёскі не збіраюцца, а замежная дапамога палітычным структурам у нас забароненая.

У планах Шушкевіча — пераптварыць БСДГ у аргкамітэт па яе новаму стварэнню: аргкамітэт можа існаваць без офісаў. «Але дакументы на ліквідацыю партыі мы пакуль не падаем. Калі чыноўнікі палічаць, што мы зможам існаваць без арэнды памяшканняў — вельмі міла. Але мне асабіста з цяжкасцю верыцца ў такі паварот падзей», — зазначае Шушкевіч.

На правакацыйнае пытанне журналістаў аб «продажы партыі» больш заможным калегам Шушкевіч адказаў пытаннем: «Каму?» Іншыя сацыял-дэмакраты, па яго словах, «ні чорта не робяць» і «толькі называюць сябе сацыял-дэмакратамі». «Мы маглі б прадацца, і досыць дорага, але... Мы не прадаемся!» — адзначыў Станіслаў Станіслававіч.

# Velcom купляе «Атлант Тэлекам»

Дзяніс ЛАЎНІКЕВІЧ

**Пэўны час ішла падрыхтоўка да інтэграцыі дзвюх буйных кампаній. Інфармацыя пра гэта паступала з розных крыніц. Аднак сам аператар сотавай сувязі velcom да ранка 30 лістапада чамусьці трымаў гэта за таямніцу, у прэс-службе адмаўляліся даваць каментары.**




Сто працэнтаў статутнага фонду кампаніі набывае холдынг Telekom Austria Group (TAG). Пасля заканчэння здзелкі velcom і «Атлант Тэлекам» будзе дзейнічаць, як адзіная кампанія. Здзелка будзе закрыта на працягу некалькіх бліжэйшых дзён, і тады ж velcom раскажа пра сумесную будучыню дзвюх кампаній. Мы паспрабавалі разабрацца: у чым палягае падзеі і як яна можа змяніць сітуацыю на рынку.

### Знакавая падзея

Падчас падрыхтоўкі артыкула, крыніца НЧ у тэлекам-галіне Беларусі пацвердзіла: кампанія УП «Велком» рыхтуецца набыць ЗТАА «Альтэрнатыўная лічбавая сетка» (гандлёвая марка «Атлант Тэлекам»), якое пазіцыянуе сябе як найбуйнейшая прыватная тэлекамунікацыйная кампанія Беларусі. Па інфармацыі той жа крыніцы, у «Атлант Тэлекаме» праходзіў аўдыт, на падставе якога і павінна была сфармавацца канчатковая сума пагаднення.

Між тым, сама па сабе гэтая падзея знакавая для беларускага рынка: найбуйнейшы мабільны аператар спрабуе стаць адначасова і аператарам фіксаванага інтэрнэт-доступу, а таксама абзавесціся ўласнымі каналамі дастаўкі кантэнту.

Упершыню інфармацыя пра тое, што «Атлант Тэлекам» выстаўлены на продаж, з'явілася яшчэ ў маі. Ужо тады крыніцы сцвярджалі, што магчымым пакупнікОм «Атлант Тэлекама» стане velcom. Але была і іншая інфармацыя: маўляў, перамовы з гэтым аператарам мелі месца, але ў выніку дамова не была дасягнутая, і цяпер пытанне абмяркоўваецца з іншым гульцом на рынку.

У ролі гэтага гульца называўся, у прыватнасці, партал TUT.by. Але яго ўладальнік Юрый Зісер у гутарцы з журналістам НЧ катэгарычна адпрэчыў свой намер набыць найбуйнейшага інтэрнэт-правайдара.

У сваю чаргу, прэс-служба velcom ніколі не пацвярджала факт магчымай дамовы, кажучы аб тым, што «velcom, як і іншыя гульцы ў сегменце тэлекама, разглядае розныя магчымасці для развіцця бізнесу, у тым ліку кірункі фіксаванага інтэрнэту».

Аднак 29 лістапада прадстаўнік аддзела ўнутраных камунікацый velcom Вячаслаў Смірноў сказаў «Новаму Часу» даслоўна наступнае: «Я пакуль не магу вам нічога афіцыйна сказаць. Але калі вы пачакаеце да заўтра або паслязаўтра, то вы атрымаеце афіцыйную інфармацыю».

Падобнымі абяцаннямі кампанія карміла журналістаў з лета. А прэс-служба «Атлант Тэлекама» наогул адмаўлялася даваць якія-небудзь каментары і на ўсе запыты адказвала стандартнай фразай: «Ніякіх дамоў не складзена, казаць няма пра што».

Тым не менш, крыніцы ўнутры «Атлант Тэлекама» пацвярджалі, што ў кампаніі ідзе татальны «ператрус», шмат якім супрацоўнікам даводзіцца пісаць справаздачы аб сваёй працы.

### Агульная тэндэнцыя

«У прыватных правайдараў варыянтаў няма — іх або «Белтэлекам» з рынка выцісне, або яны далучацца да кагосьці мацнейшага. «Атлант Тэлекам» — самы буйны і цікавы гулец на гэтым рынку, у яго шмат абанентаў, і velcom цікава іх купіць у рамках канкурэнцыі за карыстальнікаў хатняга інтэрнэту з МТС. Па-мойму, тут усё зразумела», — сказаў у каментары НЧ эксперт па тэлекамунікацыях, галоўны рэдактар выдання «Кампутарныя Весткі» Вадзім Станкевіч.

Між тым, у мінулыя гады «Атлант Тэлекам» сам даволі актыўна скупляў канкурэнтаў. Так, у студзені 2012 года кампанія набыла аднаго з самых прыкметных беларускіх інтэрнэт-правайдараў — ЗАТ «Сола». Тады ж гендырэктар «Атлант Тэлекам» Ігар Сукач згадаў у адным са сваіх інтэрв'ю, што аператар і ў далейшым разглядае варыянты пашырэння ўласнага бізнесу праз працэдуры зліцця і паглынання.

А яшчэ да гэтага, 20 кастрычніка 2011-га, «Альтэрнатыўная лічбавая сетка» выкупіла 100-працэнтную долю ў ТАА «Тэлесетка» — гомельскім правайдары інтэрнэт-паслугаў і кабельнага тэлебачання. Гэта пагадненне было праведзенае на сродкі Еўрапейскага банка рэканструкцыі і развіцця, які ў 2011 годзе праз кіруючую кампанію «Зубр Капітал» набыў 35% ЗТАА «Альтэрнатыўная лічбавая сетка».

На прэс-канферэнцыі пасля падзеі Ігар Сукач пахваліўся: «Мы гатовыя разглядаць прапановы кабельных аператараў і іншых гульцоў на рынку, якія маюць уласную інфраструктуру. Пры гэтым нас цікавіць толькі фіксаваная сувязь, якая дазваляе нам рэалізаваць назапашаны досвед у галіне ўкаранення сервісаў і паслуг па перадачы дадзеных... Мы цяпер вядзём перамовы па чатырох дамовах і чакаем, што па меншай меры адна з іх хуткім часам будзе завершаная».

**Еўрапейскі банк рэканструкцыі і развіцця (ЕБРР) выходзіць са складу акцыянераў «Атлант Тэлекама». Пра гэта гаворыцца ў заяве ЕБРР, распаўсюджанай 1 снежня. 35-працэнтны пакет акцый, якім валодае банк, а таксама астатнія акцыі «Атлант Тэлекам», якімі валодае кіруючая кампанія «Зубр Капітал», набудзе Telekom Austria Group**

Што ж датычыцца сотавага аператара velcom, то ён хоць і застаецца найбуйнейшым у Беларусі, але ў апошні час, мяркуючы па ўсім, справы ў яго ідуць не самым лепшым чынам. УП «Велком» у гэтым годзе кардынальна абнавіла свае базавыя станцыі, ахапіўшы тэхналогіяй 3G 98% насельніцтва Беларусі. Але пры гэтым кампанія не можа запусціць тэхналогію 4G (LTE) — паколькі манаполія на LTE у Беларусі аддадзеная кантраляванаму дзяржавай інфраструктурнаму аператару beCloud.

Аператар МТС яшчэ год таму пагадзіўся карыстацца паслугамі beCloud — і атрымаў магчымасць даць сваім абанентам доступ да LTE. А вось velcom пачаў з нечым не пагаджацца — і ў выніку дагэтуль не можа запусціць уласную LTE-сетку, што ўжо прыкметна раздражняе яго абанентаў.

Як распавёў намеснік гендырэктара па маркетынгу, продажам і абаненцкаму абслугоўванню velcom Роберт Дашан, 2,5 тысячы базавых станцый кампаніі з тэхналагічнага пункта гледжання гатовыя да запуску высакахуткаснай мабільнай перадачы дадзеных. «Нам бы вельмі хацелася зрабіць гэта ўласнымі сіламі, — адзначыў топ-менеджар velcom. — Чаго ў кампаніі няма, дык гэта ліцэнзіі, дазволу на дадзеную дзейнасць. Сам па сабе запуск 4G ад velcom — гэта пытанне дзён».

**Даведка**

«Атлант Тэлекам» (ЗТАА «Альтэрнатыўная лічбавая сетка») — найбуйнейшая прыватная тэлекамунікацыйная кампанія Беларусі, заснаваная ў 2000 годзе. Агульная колькасць абанентаў інтэрнэт-аператара ва ўсіх абласных цэнтрах краіны, па ягонай уласнай інфармацыі, на май 2016-га склала больш за 190 тысяч.

«Атлант Тэлекам» падае доступ да інтэрнэту на аснове тэхналогій Ethernet і ADSL, а таксама комплекс паслуг, у тым ліку кабельнае і лічбавае тэлебачанне (IPTV), хмарны відэаманіторынг, праектаванне, пабудову і абслугоўванне лакальных сетак, падаванне грамадскіх публічных сетак Wi-Fi, ліцэнзійную антывірусную абарону і іншае.

У склад заснавальнікаў «Атлант Тэлекам» уваходзіць фонд прамых інвестыцый SMH пад кіраваннем «Зубр Капітал» і Еўрапейскі банк рэканструкцыі і развіцця (ЕБРР), які валодае 35% кампаніі. Топ-менеджмент кампаніі — гэта, пераважна, выхадцы з дзяржкампаніі «Белтэлекам».

Пры гэтым, не маючы магчымасці развіваць далей мабільную сетку, УП «Велком» робіць стаўку на іншыя тэлекамунікацыйныя тэхналогіі. Уласна, яшчэ ў 2015 годзе velcom распачаў маштабныя інвестыцыі ў развіццё тэлекамунікацыйнай сеткі, якая б забяспечвала падтрымку любых сучасных тэхналогій.

### Хто выйграе?

Перамовы паміж УП «Велком» і ЗТАА «Альтэрнатыўная лічбавая сетка» ішлі на працягу ўсяго года — доўга і вельмі цяжка. Аднак сам факт таго, што падобнае паглынанне рыхтавалася, цешыць: гэта азначае, што нават ва ўмовах крызісу ў Беларусі ёсць цалкам жыццяздольныя сегменты прыватнага бізнесу.

Як гэтае аб'яднанне двух моцных аператараў сувязі паўплывае на спажыўцоў іх паслуг? Прычым як спажыўцоў інтэрнэт-доступу, так і мабільнай сувязі? На думку ўдзельнікаў рынку, ніякага ўплыву на абанентаў мабільнай сувязі velcom гэта здзелка не акажа. А вось карыстальнікам інтэрнэту ад «Атлант Тэлекам», магчыма, стане лягчэй — тарыфы не будуць расці. Бо такая буйная кампанія, як УП «Велком», будзе зацікаўленая найперш не ў падвышэнні прыбытку ад існуючых абанентаў, а ў пашырэнні абаненцкай базы. Гэта пытанне канкурэнцыі з МТС, што ўжо даўно прасоўвае паслугу хатняга інтэрнэт-доступу па тэхналогіі Ethernet. Таксама цалкам верагодна, што, набыўшы «Атлант Тэлекам», velcom кінецца даганяць МТС, які не так даўно запусціў лінейку тарыфаў «Усё!», што аб'ядналі чатыры паслугі «ў адным флаконе»: тэлебачанне, мабільны і хатні інтэрнэт, а таксама антывірус для кампутара і смартфона.

# Каб больш зарабляць, трэба менш спаць

Аляксей ХАРКЕВІЧ

**Праглядаючы старонкі карыстальнікаў Facebook, Instagram, ВКонтакте, можна падумаць, што жыццё многіх беларусаў цалкам складаецца з адпачынку і яркіх уражанняў. А што на самай справе?**




**Сутачны фонд часу беларускіх мужчын і жанчын ва ўзросце ад 10 гадоў і старэй, %.** Крыніца: Белстат




**Сутачны фонд часу жыхароў беларускіх гарадоў і вёсак ва ўзросце ад 10 гадоў і старэй, %.** Крыніца: Белстат

У тым, як выглядае звычайны дзень нашых суграмадзян, дапамагаюць разабрацца вынікі даследавання хатніх гаспадарак наконт выкарыстання насельніцтвам сутачнага фонду часу. Выбарачнае абследаванне праводзілася Нацыянальным статыстычным камітэтам пры падтрымцы Фонду ААН у галіне народанасельніцтва і ЮНІСЕФ ва ўсіх рэгіёнах Беларусі на працягу 12 месяцаў. Мэтавай групай з'яўлялася насельніцтва ва ўзросце 10 гадоў і старэй.

## Гендарная няроўнасць ладу жыцця

У апошнія гады ўсё больш папулярным становіцца абмеркаванне праблем гендарнай няроўнасці. Адным з ключавых аспектаў няроўнасці называюць розніцу ў даходах мужчын і жанчын. Так, у 2015 годзе ў Беларусі, паводле Белстата, сярэдняя заработная плата жанчын была на 24% меншай, чым у мужчын. Гэты факт разам з іншымі, безумоўна, накладвае адбітак і на лад жыцця беларускіх жанчын.

У выніку жанчыны ў сярэднім толькі 13,3% сутачнага часу прызначаюць працы. Гэта амаль у паўтара разы менш, чым мужчыны. Працоўны час і час, звязаны з працай, уключае працоўны час на асноўнай і дадатковай працы, а таксама час на перамяшчэнне да месца працы і назад.

Замест працы жанчыны больш часу надаюць вядзенню хатняй гаспадаркі. У выдаткі часу на вядзенне хатняй гаспадаркі ўключаны час на працу па хаце (гатаванне ежы, мыццё, прасаванне, шыццё, вязанне, догляд за адзеннем і абуткам, прыборка, хатні рамонт, догляд за дзецьмі), а таксама час, які выдаткоўваецца на шопінг. Сярэдняя беларуская жанчына надае хатняй гаспадарцы больш за чатыры з паловай гадзіны. Гэта ў два разы больш, чым мужчына.

У выніку ў мужчын, нягледзячы на вялікую занятасць на працы, застаецца больш вольнага часу, чым у жанчын. Да вольнага часу адносяць: час, выдаткаваны на зносіны; наведванне тэатраў, кіно, канцэртаў, музеяў, бібліятэк, спартыўных і культурна-відовішчных мерапрыемстваў; час занятку спортам і актыўнымі відамі дзейнасці, захапленнямі і гульнямі; баўленне вольнага часу з выкарыстаннем сродкаў масавай інфармацыі; час на грамадскую і рэлігійную дзейнасць.

І ў мужчын, і ў жанчын вольнага часу больш, чым працоўнага. Аднак, калі ў мужчын гэта больш за пяць гадзін, то ў жанчын — толькі 4 гадзіны з чвэрцю.

Відавочна, што патэнцыйнае павелічэнне заробку ў жанчын здольнае змяніць размеркаванне сямейных абавязкаў і скараціць гендарныя дыспрапорцыі ў размеркаванні сутачнага фонду часу.

## Ці то горад, ці то вёска

Лічыцца, што жыццё ў вёсцы прымушае больш часу надаваць працы і вядзенню хатняй гаспадаркі. Праведзенае даследаванне гэта пацвярджае, аднак розніца з жыхарамі гарадоў не відавочная.

Жыхары гарадоў і пасёлкаў гарадскога тыпу ў сярэднім выдаткоўваюць на працу нават больш часу, чым жыхары сельскіх населеных пунктаў. Час, які надаецца працы беларускімі сельскімі жыхарамі, складае ў сярэднім толькі 3 гадзіны 39 хвілін на суткі. Гараджане выдаткоўваюць на працу ў сярэднім на 10 хвілін больш.

Сяльчане вымушаны больш часу надаваць вядзенню хатняй гаспадаркі. На гэта ў іх сыходзіць больш за чатыры гадзіны на дзень. Розніца ў выдатках часу абумоўлена садоўніцтвам, агародніцтвам і доглядам за хатнімі жывёламі. У жыхароў вёсак сыходзіць на гэта ў сярэднім больш чым гадзіна на суткі. Гарадскія ж жыхары абмяжоўваюцца толькі 23 хвілінамі.




**Працоўны час і перамяшчэнні, звязаныя з працай, 10 працэнтаў найбольш і найменш забяспечаных беларусаў, гадзіны-хвіліны.** Крыніца: Белстат

У выніку колькасць вольнага часу ў прадстаўнікоў гораду і вёскі амаль аднолькавая. Розніца ў спосабах правядзення вольнага часу таксама не адчувальная. Гараджане крыху больш часу выдаткоўваюць на зносіны, кампутар і прагулкі. Затое вяскоўцы на 12 хвілін больш глядзяць тэлевізар.

## Заможныя працуюць больш

Узровень даходаў аказвае істотны ўплыў на лад жыцця чалавека. Ацэнка выдаткаў часу на ажыццяўленне розных відаў дзейнасці ў залежнасці ад узроўню забяспечанасці паказвае, што заможныя беларусы працуюць значна больш найменш забяспечаных суграмадзян.

У сярэднім найменш забяспечаныя беларусы працуюць толькі 3 гадзіны 2 хвіліны. Працоўны час самых заможных беларусаў складае 5 гадзін 24 хвіліны. Багатыя выдаткоўваюць амаль удвая больш часу і на перамяшчэнні, звязаныя з працай. Такім чынам, у Беларусі прасочваецца выразная заканамернасць паміж часам, які выдаткоўваецца на працу, і ўзроўнем дабрабыту грамадзян.

Вялікая ўвага, нададзеная працы, прымушае забяспечаных беларусаў менш часу прызначаць вядзенню хатняй гаспадаркі. Багатыя беларусы выдаткоўваюць на вядзенне хатняй гаспадаркі на 27 хвілін менш, чым бедныя. Найбольш выразна розніца праяўляецца ў часе, прызначаным догляду за дзецьмі. Калі малазабяспечаныя беларусы надаюць сваім дзецям больш за 40 хвілін на дзень, то найбольш забяспечаныя — у сярэднім толькі 8 хвілін.

Заможныя грамадзяне больш часу выдаткоўваюць на шопінг. На гэта ў іх у сярэднім сыходзіць 19 хвілін у дзень. Бедныя марнуюць на набыццё тавараў у сярэднім па 11 хвілін на дзень.

## Вольны час прысвячаецца СМІ

Забяспечаныя беларусы адводзяць на сон амаль на 1 гадзіну менш малазабяспечаных. У будні дні яны спяць менш за 8 гадзін, а ў выходныя — 8 гадзін 18 хвілін. Найменш забяспечаныя беларусы праводзяць у сне 9 гадзін на дзень.

Нягледзячы на больш працяглы сон, у малазабяспечаных застаецца больш вольнага часу.

Асноўную частку вольнага часу як багатых, так і бедных займаюць СМІ. На прагляд тэлеперадач малазабяспечаныя беларусы выдаткоўваюць 2 гадзіны 6 хвілін. Гэта на 25 хвілін больш, чым найбольш заможныя суграмадзяне.

Багатыя надаюць значна менш часу спорту і актыўным відам дзейнасці — толькі 19 хвілін на дзень, у той час як малазабяспечаныя — больш за паўгадзіны. Менш часу ў іх застаецца і на зносіны — усяго 37 хвілін на дзень.

Толькі на адзін від адпачынку багатыя выдаткоўваюць больш часу, чым бедныя — на наведванне культурна-спартыўных мерапрыемстваў. Але гэты від вольнага часу сёння здольны прыцягнуць не больш за 4 хвіліны вольнага часу.

Такім чынам, аналіз праведзенага даследавання дазваляе пазбавіцца ад некаторых стэрэатыпаў, якія склаліся вакол ладу жыцця нашых суграмадзян.

У прыватнасці, бясклапотны лад жыцця найбольш паспяховых беларусаў, пра які разважаюць у сацыяльных сетках, вельмі далёкі ад рэальнасці. У пагоні за больш высокім узроўнем дабрабыту беларусы вымушаны ахвяраваць асабістым часам.

У той жа час грамадзяне з невысокім узроўнем дастатку вядуць больш размеранае жыццё. Менш часу выдаткоўваюць на працу, затое больш часу надаюць адпачынку. Адсюль можна меркаваць, што адна з прычын нізкага ўзроўню даходу заключаецца ў саміх малазабяспечаных грамадзянах, якія не робяць неабходных намаганняў для павелічэння заробку.

Зжывае сябе і стэрэатып пра тое, што сельскія жыхары працуюць больш за гарадскіх. Сёння гараджане надаюць працы больш часу, чым жыхары вёскі.




**Вольны час 10 працэнтаў найбольш і найменш забяспечаных беларусаў, гадзіны-хвіліны.** Крыніца: Белстат

**Ля самых Курапатаў з 1939 года стала жыве сведка шматлікіх падзеяў у лясным урочышчы — 81-гадовая спадарыня Лідзія, прозвішча якой не называецца па яе просьбе. Штосьці пра трагедыю ў глухім хваёвым бары яна даведалася ад сваёй маці, нешта — ад аднавяскоўцаў, шмат што спадарыня Лідзія памятае сама.**





Спадарыня Лідзія з сяброўкай (справа). Вёска Зялёны Луг, жнівень 1956 г.

# НКУС забіваў нават калі нацысты

Марат ГАРАВЫ

Амаль усё сваё жыццё спадарыня Лідзія жыве на адным месцы — да вайны яно называлася вёскай Зялёны Луг, а зараз — з гэткай жа назвай сталічным мікрараёнам.

### Саўгас «Зялёны Луг»

Мае бацькі — з Гомельшчыны. Маці выйшла замуж у 16 гадоў, адукацыі не атрымала і працавала ў саўгасе. Тата пасля заканчэння пачатковай школы і шасцімесячных афіцэрскіх курсаў у Ленінградзе служыў у ахоўных войсках НКУС. Я нарадзілася 9 красавіка 1935 года ў саўгасе імя Клімента Варашылава ў Бялыніцкім раёне, што на Магілёўшчыне, дзе бацька служыў начальнікам аховы вайсковай часткі. Незадоўга да маіх народзінаў, калі тата быў у службовай камандзіроўцы, у часткі адбылася трагедыя — патруцілісі і сканалі ўсе вайскоўцы. Пачаліся арышты. Пад падазрэнне патрапіў і бацька, якога арыштавалі адразу пасля вяртання з камандзіроўкі. Але ён быў невінаваты ў тым, што здарылася, усяляк аспрэчваў сваю датычнасць да трагедыі, нягледзячы на катаванні электрычным крэслам. Урэшце бацька паклаў партыйны білет і сказаў следчым: «Судзіце мяне!»

Нейкім цудам бацьку вызвалілі — гэта ж быў яшчэ не 1937 год. Ён уладкаваўся брыгадзірам у саўгас, што месціўся каля вайсковай часткі і забяспечваў яе ўсімі неабходнымі прадуктамі. Жылося нам у саўгасе імя Варашылава няблага, тым больш, што для нашай сям'і пабудавалі новы дом. Аднак хутка ўсё змянілася, бо гаспадарка развалілася, і ў 1939 годзе мы вымушаныя былі пераехаць у іншы саўгас — «Зялёны Луг» ля самага Мінску. Вось так 77 гадоў таму наша сям'я, у якой апроч мяне былі яшчэ два браты — 1930 і 1937 гадоў народзінаў, апынулася ў Зялёным Лузе.

Што ўяўляў гэты невялікі саўгас, у якога было багата зямлі? Людзей працавала няшмат, была вялікая цякучка, выкліканая ў тым ліку і арыштамі, рабочыя жылі ў невялікіх пакойчыках у чатырох доўгіх аднапавярховых драўляных бараках, пабудаваных у раёне цяперашняга ўніверсаму «Віцебск». Праўда, над цэнтральнай часткай нашага бараку на другім паверсе быў узведзены мезанін пад саўгасную кантору і пачатковую школу. Каля баракаў была запраўка, а далей, дзе па вуліцы Міршанічэнкі ля МКАД зараз стаянка грамадскага транспарту, быў пасёлак з сямі хат. Там жылі Пятрушыны (іх дом стаяў пад самымі Курапатамі), Роса, Забаронька, Скварчэўскія, Чаплыгі, Бабіцкія і Няхайчыкі.

Дарэчы, у Антося Няхайчыка — чалавека пісьменнага, які працаваў прадаўцом у вясковай краме, было тры хлопцы — Алесь, Мікола і Міхась. Ля пасёлку праходзілі дзве грунтоўкі — на вёску Цна—Ёдкава (праз лес) і на Дроздава (праз поле), па якой часцяком з гораду ў Курапаты вазілі людзей на расстрэл.

### «Дарога смерці» ішла двума маршрутамі

Па гэтай палявой дарозе праходзіў першы маршрут так званай «Дарогі смерці». А другі ішоў троху на ўсход — па Лагойскай шашы да яе перакрыжавання з гравійкай Заслаўе—Калодзішчы.

Недалёка ад гэтага перакрыжавання ля самай Лагойскай шашы, справа ад яе, з боку вёскі Баравая стаялі два хутары, у адным з якіх жыла Роза Канановіч, а злева было вялікае балота, дзе часцяком тапіліся каровы.

Дарэчы, паблізу ад хутароў уздоўж Лагойскай шашы каля невялікага скверу з лісцевых дрэваў знаходзілася тая самая саўгасная крама, дзе працаваў Антось Няхайчык і дзе нкусаўцы, якія ахоўвалі Курапаты, часцяком куплялі гарэлку, кілбасу і хлеб. Апроч крамы ў доўгім драўляным будынку таксама месціліся саўгасныя склад, дзе працаваў мой бацька, і стайня.

### У кузаве былі відаць голыя пяткі

Там, дзе зараз гіпермаркет «BIGZZ», да вайны на ўзгорку стаялі саўгасныя бурты з бульбай. І некалі ўдзень вясною адна вясковая жанчынка па мянушцы «Дунька, як пыльным мехам прыстукнутая», з гэтых буртоў прыхавала ў полі троху бульбы, каб забраць яе, калі сцямнее. Прыхавала, бо нечым жа трэба было карміць сваіх двух дзетак.

Тым часам крыты зялёным брызентам грузавік, які рухаўся ў Курапаты праз палявую дарогу да Заслаўскай шашы, загруз у нізіне. І трэ было той Дуньцы выйсці на гэтую палутарку! А дзень быў халодны, ветраны. І калі вецер расхінуў брызент, якім быў закрыты кузаў машыны, жанчына схамянулася, бо ўбачыла — вязні басанож, як дровы, голымі пяткамі назад...

Як пабачыла гэта наша Дунька, расхваляваласяі, як загаласіла, выскачыў з кабіны нкусавец з наганам у руцэ, напаў на яе: «Чаго ты сюды ідзеш? Ну, хадзем сюды!» і прыгнуў да яе, а яна ад яго бягом са слязамі: «Чаго вы на мяне крычыце, вы загрузлі, а я вінаватая? Я ж сабе іду на працу».

Гэтая неспадзяванка магла скончыцца кепска, бо сведкаў расстрэлаў таксама забівалі. Запужаная Дунька бягом да бурту і жаліцца: «Ну чаго ён да мяне прычапіўся?». А рабочы, які раскрываў бульбяныя бурты, калі даведаўся пра гэтую гісторыю, дык сказаў Дуньцы: «Заўжды ты лезеш, куды не трэба. Добра, што ахоўнік цябе яшчэ не закінуў у кузаў да гэтых босых ног».

Дарэчы, паводле арт. 207 Статуту службы канвойных войскаў НКУС СССР ад 29 верасня 1939 года, падчас руху па грунтоўках на грузавіках вязні павінны рассаджвацца на падлозе кузаву машыны шэрагамі тварам у бок, супрацьлеглы руху. Канваіры па колькасці шэрагаў вязняў павінны былі месціцца на лаўцы ў пярэдняй частцы машыны, а начальнік канвою — каля вадзіцеля. Канвой павінен быў забараняць вязням уставаць і паварочваць галаву ў бок руху.

Тым часам «чорны варанок» павёз людзей на расстрэл. А нашы саўгасныя перабіраюць бульбу і чуюць, як з лесу стрэлы даносяцца: «Пок, пок, пок».

### Чалавека, які ўцёк з-пад расстрэлу, не знайшлі

Тая самая «Дунька, як пыльным мехам прыстукнутая», мае дачыненне да яшчэ адной жудаснай курапацкай гісторыі. З яе слоў, стары хутаранін прозвішчам Гарлінскі (імя не памятаю) некалі летам пайшоў у лес шукаць сваю карову, бо не прыйшла з пашы. Ужо сцямнела, і гаспадар падумаў, што карміцелька скубе траўку ля плоту. Ідзе мужчына па чыстым лесе і чуе — сукі трашчаць, глянуў — бяжыць нехта высокі ў белым, а па ім страляюць. Гарлінскі спужаўся і на зямлю кінуўся, а яго жывёліна стаіць каля плоту, дрыжыць і рыкае. Гаспадар да каровы і трымае яе, а тым часам бягляк уцёк ад пагоні. Потым высокага мужчыну, які збег з-пад расстрэлу ад немінучай смерці і хаваўся ў пасёлку, то там, то там бачылі ў Зялёным Лузе.




Сярэдні брат спадарыні Лідзіі

Дунька таксама аднойчы пасля паўночы бачыла ўцекача за сваім хлеўчуком. Бачыла добра, бо свяціў месяц. Ад жаху аслупянела, бо ён нерухома стаяў у споднім і маўчаў. І яна маўчала, а затым, перапужаная, ціхенька сышла дахаты. Нкусаўцы праз гэтага бегляка ўвесь саўгас перетрэслі, але яго не знайшлі. Аднак праз некалькі дзён арыштавалі мясцовага настаўніка Грыневіча (імя не памятаю). Можа, таму арыштавалі, што быў ён таксама высокага росту. Пра гэта Дунька распавяла маёй маці ў канцы вайны. Дарэчы, гэта быў не адзіны выпадак, калі арыштанты збягалі з-пад расстрэлу.

Увогуле, з нашага саўгасу пахапалі многіх. Дзесьці ў 1937–1938-м ноччу забралі Антона Матусевіча, які жыў за Лагойскай шашой на хутары, дзе цяпер прыпынак трамвая на вуліцы Сядых. Не паглядзелі, што ў яго чацвёра дзетак, прычым адзін — яшчэ ў калысцы. Жонка Таццяна Матусевіч кінулася да мужа, нкусаўцы яе адпіхнулі, а дзеці прачнуліся і, паўмёртвыя ад жаху, стоячы развіталіся з бацькам. Таццяна чакала мужа дзень-другі, а потым пайшла ў Курапаты да плоту — распавяла мне пасля вайны іх дачка Вікторыя Матусевіч (1929 г.н.).

У цемры расхваляваная жанчына вочы прагглядзела, усё спадзявалася ўбачыць свайго Антося, але нічога не ўбачыла, толькі пачула, як машына заязджае за плот. Праз нейкі час з-за загарадкі данесліся прыглушаныя гукі нейкай мітусні, потым усё сцішылася, і мужчынскі голас ясна выгукнуў: «Птушкі, чаму вы не лётаеце? Скажыце нашым, што мы не вінаватыя!».

Было, што і на саўгасным пасёлку схапілі людзей, імёны і прозвішчы якіх я не памятаю. Пра ўсё гэта людзі добра ведалі, але вельмі баяліся нават слова казаць.

### Забівалі сем'ямі

Гэтыя сведчанні майго аднавяскоўца Аляксея Забаронькі (прыкладна 1925 г.н.) дайшлі праз ягонага пляменніка, якія той пераказаў свайму сябру — майму малодшаму брату, народжанаму ўжо пасля вайны.

Паводле Аляксея Забаронькі, які жыў у Зялёным Лузе, там, дзе цяпер месціцца дом №14 па вуліцы Міршанічэнкі (дарэчы, ад іх сядзібы і па сёння засталіся старыя яблыні), дзесьці пасля аб'яднання Заходняй Беларусі з БССР восенню 1939-га ці 1940-га рабочыя саўгасу нешта рабілі на пагорку ў раёне сённяшняга «Экспабелу» (там быў досыць вялікі ўзгорак, які пасля вайны спляжылі бульдозерамі, а пясок выкарысталі для насыпу земляного палатна пад МКАД). І з гэтага пагорку вяскоўцы днём



# у Курапатах, ўвайшлі ў Мінск



Сям'я (1956 г.). Сядзяць — сярэдні брат і спадарыня Лідзія, стаяць — старэйшы брат і маці

добра бачылі, як па гравійцы Заслаўе—Калодзішчы ў бок Курапатаў адзін за адным ішлі грузавікі-палутаркі, на падлозе кузаваў якіх покатам, як дровы, ляжалі людзі — адзін на адным.

А 14-гадовы Аляксей Забаронька ў гэты час пералез праз плот, каб пацікавіцца, што за ім, аднак калі пачуў гук машын, спрытна і хуценька ўскараскаўся на вялікую калючую і халодную яліну і з яе з жахам назіраў, як мужчын, жанчын і дзяцей павялі да вялікага рову на расстрэл. Ад убачанага хлопец на дрэве страціў прытомнасць, аднак усё ж такі чуў стрэлы, лямант асуджаных і словы аднаго мужчыны: «Хоць скажыце праўду, за што нас забіваюць?». Людзі галасілі, але ім нічога не адказвалі, працягвалі страляць, а пасля расстрэлу нават не закідалі гэты роў, з якога яшчэ даносіліся стогны канаючых. Тым часам нкусаўцы з'ехалі ў Дроздава і ўвесь вечар пілі там самагонку і гулялі.

Дзесьці на пачатку 1950-х гадоў адзін хлопец з вёскі Мар'яліва Мінскага раёна пераказваў сведчанні свайго брата, які перад самай вайною ўдзень пералез праз плот, схаваўся ў траве і з-за хмызняку бачыў, як прывезлі грузавік моцна збітых мужчын. З машыны іх выводзілі па адным, хто сам не мог ісці, таго цягнулі, падводзілі да вялікай ямы, ставілі да яе тварам, забівалі і кідалі ў яму. Прычым адзін нкусавец трымаў ахвяру за руку, а другі страляў з нагана ззаду ў патыліцу асуджанага і тут жа даваў яму выспятка.

## У першыя дні вайны нкусаўцы бясконца вазілі людзей у Курапаты

Калі ж пачалася вайна, увогуле стала жудасна, бо нкусаўцы бясконца вазілі людзей у Курапаты і адтуль усю ноч даносілася страляніна. А ў адну ноч мая маці і Таццяна Матусевіч, якія вартавалі саўгасную маёмасць, чулі з-за плоту як не адзінкавыя стрэлы, а аўтаматныя ці кулямётныя чэргі. Нават і такое было, што немцы ўжо Мінск захапілі, а «чорны варанок» пад вечар яшчэ папрывозіў у Курапаты людзей на расстрэл. Дарэчы, пра гэта ў Зялёным Лузе шмат хто ведаў.

Забівалі і пасля вайны. Так, прапалі з канцамі мая настаўніца батанікі і мой настаўнік беларускай мовы і літаратуры Цітовіч (імя не памятаю), які пасля вайны выкладаў у Цнянскай школе — былым маёнтку Наркевічаў-Ёдкаў, жыў у ім і быў дырэктарам школы. Паводле маёй знаёмай з Цны Нілы Церлюкевіч (1939 г.н.), якая таксама вучылася ў гэтай школе, аднойчы летнім вечарам дырэктар пайшоў выгульваць свайго нямецкага аўчара, які дзень сядзеў на ланцугу.

Аднак вярнуўся сабака сам, без гаспадара. І калі пра яго спыталіся ў сабакі, ён крутануўся і пайшоў назад, прычым увесь час азіраўся на тых, хто за ім крочыў, каб не адсталі. Урэшце прыбег у Курапаты і сеў на тое месца, дзе рассталася з Цітовічам. Верагодней за ўсё, там яго і арыштавалі. А можа і забілі.

## Калі прыйшлі немцы

Як толькі ў канцы чэрвеня 1941-га ў Мінск прыйшлі немцы, жыхары вёскі — трое мужчын і дзве жанчыны, у тым ліку і мая маці, вырашылі пацікавіцца Курапатамі, тым больш што на пачатку вайны плот хуценька разабралі сяляне з наваколля.

Справа ў тым, што аднавяскоўцы ў гэты глухі лес раней не хадзілі — вельмі страшна, а нейк падлезці пад плот было немагчыма. Ва ўрочышчы былі шмат пахаванняў. Адзін мужчына падлічыў іх і абвясціў вынік: усяго было знойдзена 25 магіл, у тым ліку дзве, што месціліся неяк убаку, прыкрытыя лапкамі. А яшчэ казалі, што плотам была выгараджана вялікая тэрыторыя старога бору. Дарэчы, два нямецкія афіцэры настойліва дапытваліся ў вяскоўцаў, чаму частка лесу была агароджаная плотам і што там адбывалася за саветамі. Аніякіх расстрэлаў у Курапатах пад немцамі не было.

Падчас акупацыі ў Зялёным Лузе загінуў наш настаўнік беларускай мовы і літаратуры Маслоўскі (імя не памятаю). У вёску ён прыходзіў з Мінску, каб нешта зарабіць і не памерці з голаду. Казалі, што забілі яго немцы ў лесе за тое, што нёс партызанам гранаты. Гэтага не магло быць, бо навокал стаялі немцы, у тым ліку ў Астрашыцкім Гарадку і ў Малінаўцы. На маю думку, Маслоўскага забілі партызаны за тое, што ён пад акупацыяй выкладаў у нашай беларускамоўнай школе родную мову і літаратуру. І па сённяшні ў маёй памяці засталося практыкаванне, якому ў першым класе вучыў Маслоўскі: «Габрусь запрог каня ў воз і паехаў у абоз вазіць авёс».

## Чула стрэлы і бачыла вароты ад плоту

Неяк летам 1940 года ў другой палове дня мы з бабуляй пайшлі ў Курапаты па чарніцы. Я была малая. Нечакана ў лесе пачуліся стрэлы, бабуля спужалася, моцна схапіла мяне за руку (і як яна мне не адарвала гэтую руку?) і хуценька пацягнула дахаты. Запомніўся мне і высокі-высокі шэры плот з плашак — кругляку, распілаванага ўздоўж напалам. Мне потым маці казала, што гэны плот з гарбыля быў вельмі доўгі і цягнуўся ў бок Зялёнага Лугу, мабыць, амаль аж да самай хаты Пятрушыных, дзе цяпер стаіць дом № 49 па вуліцы Міраншічэнкі.

А летам 1944 года, адразу пасля вызвалення Мінску ад немцаў, мы пайшлі ў Курапаты па дурніцы. І каля самай Заслаўскай шашы я бачыла вялікія драўляныя вароты, праз якія за плот заязджалі машыны. Гэтыя шэрыя вароты былі досыць доўгія, вельмі высокія, яшчэ даволі моцныя, праўда, некаторыя плашкі былі адарваныя ад жэрдак. Прычым абедзве створкі варотаў ляжалі паводдаль адна ад другой. Дарэчы, гэтыя вароты, амаль спрэс зарослыя травою, угледзелі старэйшыя хлопцы, якія пайшлі з намі ў лес па ягады. Менавіта яны, у тым ліку Генадзь Паўлавіч Ярчак (1930 г.н.), яшчэ дзівіліся, чаму людзі плот расцягнулі, а вароты пакінулі.

## Хадзілі на гару «Карпаты» катацца на санках

Дзесьці ўжо пасля вайны, калі мне было гадоў 11, мы часцяком з іншымі школьнікамі бралі на стайні вялікія санкі, чапляліся вакол і цягнулі іх, каб пакатацца на гэтых санках з высокага падковападобнага лысага ўзгорку, што між дзецьмі зваўся «Карпаты» і месціўся ля самай Заслаўскай шашы і каля поля. Прычым скочваліся ў розныя бакі — да шашы Заслаўе—Калодзішчы, да лесу і да поля, што і па сённяшні захавалася паміж Курапатамі і «Экспабелам».

Прыкладна ў 1947 годзе, калі я вучылася ў трэцім класе, разам з настаўнікамі мы засаджвалі невялікімі ялінкамі, хвойкамі і бярозкамі той самы падковападобны пагорак, што дзеці называлі «Карпаты». Пад кіраўніцтвам настаўніка Антона Ермалаевіча Какуры мы некалькі дзён засаджвалі падэшву гэтага ўзгорку на поўнач ад грунтоўкі, што злучала вёскі Зялёны Луг і Цна—Ёдкава. Дарэчы, у гэтай справе бралі ўдзел і школьнікі з Цны, бо добра памятаю, як адны адных мы закідвалі камянямі.

## Першы герой Курапатаў — смелая Лідзія Яцук

Хаця большасць вяскоўцаў верыла ў тое, што за плотам пралетарская ўлада насамрэч забівае ворагаў народу, і падтрымлівала гэтыя захады савецкай дзяржавы, у саўгасе знайшліся людзі з іншым меркаваннем.

Праз колькі гадоў пасля вайны ў вёску пайшла пагалоска, што на курапацкіх пагорках спілуюць лес, пні выкарчуюць, а тэрыторыю бульдозерамі выраўняюць пад раллю. Супраць гэтых планаў паднялася адважная жанчына, рабочая саўгаса Лідзія Яцук прыкладна 1913–1914 гадоў нараджэння, якая сама выхоўвала свайго сына, бо муж загінуў на вайне, як і мой бацька. Гэтая ўдава анікога не баялася і адкрыта казала, што нельга араць Курапаты, бо там увесь лес на касцях, а поля ў саўгасе і так зашмат, толькі працоўных рук бракуе.

Менавіта Лідзія Яцук вымусіла тагачаснага дырэктара саўгаса, былога партызана, чалавека прыстойнага (імя і прозвішча яго не памятаю) пайсці на прыём да адпаведнага міністра, каб скасаваць гэтыя планы. І, як ні дзіўна (гэта ж былі сталінскія часы!), настойлівасць смелай Лідзіі Яцук дала свой плён — пасля таго, як міністр наведаў нашы мясціны, улады адмовіліся ад планаў узараць Курапаты і пакінулі гэтае месца ў спакоі, а потым вырашылі пашыраць ва ўрочышчы плошчы пад пасадкі лесу.

Так што Лідзію Яцук можна з поўным правам лічыць першай гераіняй Курапатаў, якая сваёй рашучасцю захавала для нашчадкаў гэтае святое месца.

## У 1955-м парэшткі з Курапатаў вывозілі ў балота

Памятаю, як у 1955-м, калі мне было 20 гадоў, цягам тыдня-двух на полі ля Курапатаў з іх усходняга боку стаяла шмат машын і вайскоўцаў. Казалі, што яны там нібыта на вучэннях. Аднак пра гэта нічога не сведчыла.

Дзесьці праз год нейк я вярталася дадому з грыбоў і ішла праз Курапаты. Была стомленая, ішла павольна, а мяне дагнаў мужчына з кійком, і мы пачалі размаўляць. Ён быў франтавік. Ён расказаў, што з Курапатаў выязджаў самазвал з людскімі парэшткамі, адвозіў іх на шашу Заслаўе—Калодзішчы і скідваў косці ў балота за гэтай гравійкай. Гэты ветэран вайны часта прыязджаў у Курапаты катацца на лыжах і бачыў, як нават зімою з лясного ўрочышча на самазвале вывозілі парэшткі, асобныя косткі падалі з машыны.

Пры гэтым мужчына сцвярджаў, што ён неаднойчы бачыў гэтыя жудасныя карціны. Пра такое сведчыла і адна жанчына з Баравой 1927 года нараджэння.

## Калі пракладалі МКАД, бачыла людскія парэшткі

Аднойчы летам, калі праз Курапаты пракладалі Мінскую кальцавую аўтадарогу (у 1956–1961 гадах. — М.Г.) мы з сяброўкай Нінай Лантасавай (1935 г.н.) хадзілі купацца на рэчку Цну, што цякла ля вёскі Цна—Ёдкава. Вярталіся дахаты па лясной дарозе, настолькі вузкай, што па ёй нават два вазы не маглі размінуцца. І на гэтай лясной дарозе, ля якой будавалася МКАД, у траве ўбачылі чэрап і іншыя людскія парэшткі. Не выключаю, што на лясную дарогу косткі скаціліся з насыпу, які ўзводзіўся для кальцавой. А можа гэтыя парэшткі мы бачылі нават на самым насыпу пад будучую кальцавую, бо ў адным месцы лясная дарога перасякала яго.

Менавіта тады дарожныя рабочыя звярнулі ўвагу, што ўжо тройчы самазвал вывозіў з Курапатаў зямлю з парэшткамі і скідваў яе ў балота, што было ў лесе недалёка ад вёскі Баравая.

Дарэчы, пасля вайны аднавяскоўцы ніколі не хадзілі ў Курапаты па траву, грыбы ці ягады.

## Пра расстрэлы ў Трасцянцы

Перад самай вайною НКУС расстрэльваў у Трасцянцы палітвязняў, зняволеных на Валадарцы, у тым ліку палякаў. Добра памятаю, што пра гэта гаварыў высокі мужчына з доўгімі вусамі па мянушцы «Будзённы», які пасля вайны пераехаў з Лошыцы ў Зялёны Луг і збудаваў у нашай вёсцы хату. Паводле яго, прывезеныя на некалькіх машынах палітвязні былі забітыя ў Трасцянцы, дзе падчас вайны немцы стварылі лагер смерці.

У гэтым запісе ўспамінаў спадарыні Лідзіі магчымыя дробныя недакладнасці, але агульная карціна падзей у Курапатах і ў вёсках вакол іх, узноўленая відавочцай, — беспрэцэдэнтная. Давайце разам асэнсуем гэтыя ўспаміны, зважаючы, што сведчанні відавочцаў належаць да гістарычных крыніц, не менш важных, чым сведчанні пісьмовыя, выяўленчыя і рэчавыя. Калі ж апошніх крыніц не хапае ці яны недасяжныя з розных прычын, успаміны відавочцаў набываюць асаблівую вагу.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ТУРЦЫЯ. Эрдаган дазволіў вусы

У войску Турцыі анулявалі рэгламент, прыняты яшчэ ў 1982 годзе. Рэгламент утрымліваў параграф, які абавязвае дзяржслужачых «апранацца сучасна і проста, у адпаведнасці з прынцыпам рэформы Атацюрка». Згодна з цяперашнім указам турэцкага ўрада, больш за 30 тысяч грамадзянскіх асоб, якія працуюць у структурах турэцкіх узброеных сіл, змогуць з гэтага часу не прытрымлівацца «ваеннага дрэс-коду». Жанчыны могуць хадзіць на працу ў хіджабе, а мужчыны — адрошчваць вусы і бароды. Гэтая рэформа — не толькі адыход ад свецкіх канцэпцый Атацюрка. Пункты ваеннага статуту ад 1982 года апынуліся адмененымі напалову: цывільным асобам ужо можна, але вайскоўцам яшчэ нельга. Змены азначаюць, што войска больш не з'яўляецца элітай Турэцкай Рэспублікі, а секулярызм не дапамагае пропуску ў вышэйшыя эшалоны ўлады. Чым скончыцца новы сацыяльны эксперымент, цяжка сказаць, асабліва з улікам таго, што ў краіне прыкладна палова людзей выступае за свецкі характар дзяржавы. Цікава, што барада (да апошняга часу) была ледзь не асноўнай прыкметай апазіцыйнай ідэнтычнасці яе ўладальніка. Бараду насілі ўсе праціўнікі рэжыму — левыя актывісты, ісламісты і ліберальныя інтэлектуалы.

**Паводле турэцкай прэсы**

### ПАЎДНЁВАЯ АСЕЦІЯ. Навошта адраджаць Аланію?

Каўказская грамадскасць актыўна абмяркоўвае ініцыятыву кіраўніка Паўднёвай Асеціі Леаніда Цыбілава аб перайменаванні рэспублікі, якая фармальна з'яўляецца часткай Грузіі, а фактычна — патранатам Масквы. Цыбілаў прапанаваў перайменаваць Паўднёвую Асецію ў Рэспубліку Паўднёвая Асецыя — Аланія. Аланія — сярэднявечная дзяржава, якая існавала ў перадгор'ях Паўночнага Каўказу з пачатку I тысячагоддзя. У сярэдзіне XIV стагоддзя Аланія знікла пад націскам татара-манголаў. Навошта патрэбна адраджаць Аланію праз 600 гадоў? Цыбілаў кажа пра аднаўленне гістарычнай справядлівасці, аднак шмат хто бачыць тут больш глабальную фабулу. Мяркуюць, што за кошт перайменавання рэспублікі ў Цхінвалі запускаюць працэс аб'яднання нефармальнай рэспублікі з Паўночнай Асеціяй — суб'ектам Расійскай Федэрацыі, дзе таксама папулярна ідэя перайменаваць край у Аланію. З'яўленне на мапе двух дзяржаўных фармаванняў з назвай «Аланія» стварае падмурак для такога аб'яднання пад дахам Расіі. Цікава, што брэнд «Аланія» таксама папулярны сярод інгушоў і чаркесаў. Іх інтэлектуалы таксама заклікаюць унесці ў назвы рэспублік слова «Аланія». Не выключана, што нас чакае незвычайная барацьба: хто з каўказскіх народаў з'яўляецца сапраўдным нашчадкам аланаў.

**Паводле расійскай прэсы**

### ЗША. Як маляваць свастыку?

Выбарчая кампанія Дональда Трампа, які агучваў шмат ксенафобскіх лозунгаў, стала імпульсам для актывізацыі праварадыкальнага руху ў Злучаных Штатах. Гэта таксама выявілася ў росце колькасці нацысцкіх графіці па ўсёй краіне. Так, у габрэйскіх кварталах Нью-Ёрку зафіксавалі каля 60 падобных малюнкаў. Гэта сумная з'ява выклікала заклапочанасць у грамадстве, аднак у масе негатыву некаторыя каментатары знайшлі і пэўны пазітыў. Адзначаецца, што шмат з тых свастык не адпавядаюць канону нацысцкай эмблемы, крылы якой накіраваныя ў правы бок і звернутыя пад кутом у 45 градусаў. Замест гэтага неанацысты малююць нейкія жудасныя пародыі на нацы-сімволіку, якія часам выклікаюць смех. Усё гэта дае падставу сцвярджаць, што апошняя генерацыя амерыканскіх нацыстаў, мякка кажучы, не вельмі адукаваная. Праўда, неадукаванасць цяперашніх праварадыкалаў, натуральна, не вырашае праблемы росту нацысцкіх поглядаў у ЗША.

**Паводле амерыканскай прэсы**

### КІТАЙ. Усім здаць пашпарты

У Кітаі, падаецца, прыгадалі савецкую практыку, калі сялянам не давалі пашпарты для ўтрымання іх на таннай працы ў аграсектары. Нешта падобнае адрадзілі ў Пекіне, запатрабаваўшы ад 22 мільёнаў жыхароў правінцыі Сіньцзян да сярэдзіны лютага здаць свае дакументы ў мясцовыя пастарункі МУС «для праверкі». Праўда, у версію пра праверку мала хто верыць. Большасць насельніцтва належыць да ўйгураў — цюркамоўнага народу, які вызнае іслам. Уйгуры даўно патрабуюць незалежнасці, а некаторыя з іх сімпатызуюць ісламскім радыкалам. Магчыма, для кантролю над апазіцыяй і праводзіцца татальная праверка пашпартоў. Чыноўнікі абяцаюць, што пасля ўсе лаяльныя грамадзяне атрымаюць дакументы назад, а іншым пашпарты не вернуць. Такім чынам, дысідэнты фактычна пазбавяцца магчымасці пакідаць краіну і кантактаваць з замежнымі цэнтрамі апазіцыі. Відавочна, што іх магчымасці перасоўвацца ўнутры краіны таксама будуць абмежаваныя. Ці дапамогуць такія незвычайныя паліцэйскія захады стабілізаваць край, пакажа час.

**Паводле нямецкай прэсы**



Фота www.Life.ru

# Фіён vs Ле Пэн

Алег НОВІКАЎ

**Кандыдатам ад правацэнтрыстаў на прэзідэнцкіх выбарах 2017 года ў Францыі нечакана стаў Франсуа Фіён — былы прэм'ер, чалец некалькіх урадаў, палымяны аматар Маргарэт Тэтчар. Чаму правы французскі выбаршчык здрадзіў фаварытам — Алену Жупэ і Нікаля Сарказі — дапамагае разабрацца французскі журналіст Аляксандр Чукаеў.**

— Франсуа Фіён ужо быў прэм'ерам і, больш за тое, неаднаразова казаў, што мае прэзідэнцкія амбіцыі. Аднак па класічнай схеме, калі кандыдатаў у прэзідэнты прызначаюць партыйныя сходы, шанцаў стаць лідарам правых у яго не было. Прозвішча кандыдата вызначалася, па сутнасці, кулуарна, у перамовах паміж партбонзамі, да якіх Фіён не належыць. На дапамогу яму прыйшоў Сарказі, які любіць усё амерыканскае. Ён навязаў партыі ідэю праймерыз адзінага кандыдата, будучы ўпэўненым, што перамога ў яго ў кішэні. Аднак у выніку Сарказі нават у фінал не прайшоў, прапусціўшы Жупэ і Фіёна. Аказалася, што нізавы правы электарат мае сваю думку. Увогуле, праймерыз выклікаў каласальны інтарэс. Па статыстыцы, яго ўдзельнікамі стала 67 працэнтаў тых французаў, хто галасуе за правых.

***— Чаму ў супрацьстаянні Жупэ—Фіён перамог апошні?***

— Як толькі ўзнікла кандыдатура Жупэ, прэса адразу ўзгадала яго мінулыя праколы. Гэта і махінацыі ў камандзе Шырака, калі яны з босам праца́ўладкоўвалі ў адміністрацыю «мёртвыя душы», а іх заробкі кралі і хавалі за мяжой. Гэта і яго кепскае стаўленне да прэсы, калі ён персанальна пагражаў пазбавіць рэпарцёраў «журналісцкай карткі» — дакумента, без якога нельга працаваць у СМІ. Узгадалі і тое, што ў свой час Жупэ меў кантакты з групоўкай «Мусульманскія браты». Жупэ чамусьці вельмі слаба абараняўся, і ў выніку на ягоным фоне Фіён выглядаў больш сімпатычна і адэкватна.

***— Няўжо ў Фіёна няма шкілетаў у шафе? Вядома, што французская журналістыка сочыць ці не за кожным крокам палітыкаў...***

— Фіён за ўсю сваю кар'еру практычна не быў фігурантам скандалаў — сталых спадарожнікаў французскага палітычнага жыцця. Гэта нават трошкі дзіўна, бо ён быў у складзе ўрадаў, а міністры ў нас вельмі часта выконваюць ролю стрэлачніка пры прэзідэнце, біручы на сябе адказнасць за ўсе правалы гаранта. Дзіўным чынам Фіён умудрыўся захаваць дастаткова добрыя рэйтынгі па выніках сваёй працы міністрам. У прынцыпе, ён мае вобраз тэхнакрата, які проста старанна робіць сваю працу.

***— Сам Фіён любіць параўноўваць сябе з Маргарэт Тэтчар — сімвалам неаліберальных рэформаў. Карыкатурысты ўжо пачалі маляваць Фіёна з валасамі а-ля Маргарэт. Французы могуць масава падтрымліваць неаліберальнага палітыка ў час крызісу?***

— У выпадку Фіёна гаворка ідзе пра іншыя аспекты спадчыны Жалезнай лэдзі. Фіён прыводзіць у прыклад Тэтчар як палітыка, які сапраўды займаўся эканомікай — у адрозненне ад палітыкаў, якія любяць вечарыны і папулісцкую фразеалогію. Гэта яўны намёк на Сарказі — аматара жыцця. Тэтчар для яго — палітык, які мае сур'ёзны падыход да справы. Цяжка сябе ўявіць, каб Фіён, як Сарказі, пафасна абяцаў, што «пасля перамогі брандспойтам вымые ўсю злачыннасць». Ён будзе хутчэй казаць нешта канкрэтнае. На самай справе, праграму Фіёна цяжка назваць неаліберальнай. Яе галоўныя пастулаты — рост заробку для працоўных і скарачэнне каля 600 тысяч чыноўнікаў.

***— Хто будзе апаніраваць Фіёну злева?***

— У сацыялістаў у напрыканцы снежня адбудзецца свой праймерыз. Найбольш шанцаў у прэзідэнта Франсуа Аланда і прэм'ера Мануэля Вальса. Аднак іх падтрымка па-за межамі партыі, сярод выбаршчыкаў, проста смешная — не больш за 12 працэнтаў. Асабліва ўсё кепска ў Аланда, якому пасля таго, як трапіў пад дождж на дзень узяцця Бастыліі, у народзе далі мянушку «Чалавек дажджу». Зразумела, што ў гэтым выпадку левым пра выхад у другі тур можна і не марыць. Іншых фігур, якія маюць нейкую пазнавальнасць на нацыянальным узроўні, сярод сацыялістаў няма. Магчыма, ролю левага кандыдата паспрабуе ўзяць на сябе незалежны кандыдат Эмануэль Макрон. На ўльтралевым флангу ёсць Жан-Люк Меланшон, якога падтрымліваюць камуністы. Меланшон здольны цікава прамаўляць, аднак яму бракуе адміністратыўнай практыкі.

***— Атрымліваецца, што галоўным праціўнікам Фіёна можа стаць Марын Ле Пэн? Якія ў яе шанцы?***

— Пасля сюрпрызу ад Трампа ўсе апытанні сведчаць, што яна — другая па папулярнасці, аднак вялікае пытанне: ці хопіць гэтага, каб перамагчы Фіёна, якога, відавочна, падтрымае не толькі правы, аднак і левы электарат? Зараз Марын Ле Пэн працягвае шукаць новы імідж партыі, якая дасюль лічыцца партыяй агрэсіўнага дробнага буржуа. Адсюль і новая сімволіка Нацыянальнага фронту — сіняя ружа, якая нагадвае чырвоную ружу сацыялістаў, абаронцаў інтарэсаў працоўных. Аднак нават выхад у другі тур будзе вялікім поспехам для Нацыянальнага фронту.

А вось для грамадства камбінацыя «добры» Фіён супраць «кепскай» Ле Пэн не аптымальная. Гэта азначае, што не будзе канкурэнцыі платформаў, сур'ёзных дэбатаў пра стан краіны і яе перспектывы.

# Усе супраць Рэнцы

Алег НОВІКАЎ

**Не паспела Еўропа адысці ад псіхалагічнага шоку Brexit, як на гарызонце паўсталі новыя выклікі. Ужо 4 снежня па выніках плебісцыту ў Італіі можа пачацца новы крызіс еўраструктураў. Дэталі распавядае Рыгор Раманенка, які вучыцца ў Мілане.**




Фота www.Scoopnest.com

Рэнцы спрабуе выратаваць італьянскую эканоміку пад уражаннем ад Brexit

***— У чым сутнасць рэферэндуму?***

— Мяркуецца пераўтварыць «Сенат Рэспублікі» ў «Сенат рэгіёнаў» — асновай для фармавання стануць рэгіянальныя дарадцы і мэры. Пры гэтым колькасць скароціцца з 315 да 100 чалавек (21 мэр, 74 рэгіянальныя дарадцы і яшчэ 5 сенатараў, прызначаных кіраўніком дзяржавы тэрмінам на 7 гадоў).

Сенат будзе валодаць заканадаўчай уладай толькі па пытаннях рэформаў і ўнясення змяненняў у Канстытуцыю. Па астатніх пытання Сенат зможа толькі даваць рэкамендацыі Палаце дэпутатаў Італіі.

У выніку рэформы зменшацца паўнамоцтвы рэгіёнаў краіны: пытанні энергетыкі, стратэгічнай інфраструктуры і грамадзянскай абароны будуць вырашацца наўпрост прэм'ер-міністрам. Акрамя таго, па просьбе ўрада пры неабходнасці «абароны юрыдычнага і эканамічнага адзінства Рэспублікі ці яе нацыянальных інтарэсаў», Палата дэпутатаў зможа зацвярджаць законы, якія рэгламентуюць пытанні, што ўваходзяць у кампетэнцыю рэгіянальных уладаў.

Зменіцца парадак арганізацыі правядзення рэферэндумаў (спатрэбіцца 800 000 подпісаў выбаршчыкаў замест 500 000) і прапановы праекта закона з боку выбаршчыкаў (150 000 подпісаў замест 50 000)

Акрамя таго, плебісцыт разглядаецца як апытанне наконт вотуму даверу сацыял-дэмакратычнаму ўраду Матэа Рэнцы. Рэферэндум прапанаваў менавіта прэм'ер. У выпадку, калі большасць італьянцаў скажа «не», краіну дакладна пачне палітычна штарміць. Не выключаны эфект даміно, калі палітычная нестабільнасць будзе моцна ўплываць на эканоміку. Найперш гэта можа зачапіць банкаўскаю сістэму.

***— А што не так з італьянскімі банкамі? Некаторыя з іх паўсталі яшчэ ў XIV стагоддзі, лічацца самымі старымі банкамі ў свеце...***

— Банкі Італіі маюць каласальныя пазыкі: аб'ём праблемных крэдытаў на іх балансах налічвае 290 мільярдаў еўра. Без вонкавай дапамогі яны не здольныя вярнуць грошы. У выпадку банкруцтва пацярпяць не толькі іх уладальнікі і кліенты, аднак і будзе нанесены ўдар па прэстыжу італьянскай эканомікі. Урад распрацаваў план дапамогі банкірам, пілотным праектам якога стала падтрымка банка Monte dei Paschi di Siena. Калі Рэнцы 4 снежня прайграе — той план будзе замарожаны, і першай рэакцыяй стане банкруцтва як мінімум васьмі банкаў. У гэтым плане не выключана, што Італія паўторыць шлях Грэцыі — ператворыцца ў краіну-даўжніка, дзе рэй у палітыцы вядуць радыкалы. Аднак па ўсіх параметрах Італія — гэта не Грэцыя. У нас ідэя выхаду з зоны еўра і вяртання нацыянальнай валюты не падаецца публіцы такой ужо нерэалістычнай. Прынамсі, 20 працэнтаў італьянцаў не супраць вярнуцца да ліры. Нават заява пра магчымую адмову Італіі ад еўра абернецца хаосам у ЕС.

***— Хто выступае супраць прапановы Рэнцы, і якую альтэрнатыву яны прапануюць?***

— Апаненты прэм'ера — дастаткова вялікі спектр палітычных сілаў, якія ідэалагічна ўзаемна варожыя. Нездарма рэферэндум ужо назвалі «Усе супраць Рэнцы». Лагер праціўнікаў ураду ўключае камуністаў і правых радыкалаў, адным з фронтмэнаў выступае гумарыст Бепе Грыла, лідар левапапуліcцкага «Руху пяці зорак». Кожная палітычная структура мае свой рахунак да Рэнцы: напрыклад, правыя крытыкуюць яго міграцыйную палітыку.

**Калі большасць італьянцаў скажа «не», краіну пачне палітычна штарміць. Не выключаны эфект даміно, калі палітычная нестабільнасць будзе моцна ўплываць на эканоміку**

Апаненты прэм'ера, як правіла, кажуць, што тэма выратавання банкаў — блеф. Маўляў, рэформа Сенату спатрэбілася Рэнцы, каб сканцэнтраваць больш улады ў сваіх руках. Наступным актам стане даўно абяцаны запуск жорсткіх эканамічных рэформаў, ахвярамі якіх стануць не толькі працоўныя, аднак і сярэдні клас — кліенты малых банкаў, якія Еўрасаюз заклікае ліквідаваць. Для правядзення рэформаў прэм'еру дакладна спатрэбіцца больш уладных паўнамоцтваў: для манеўраў, аператыўнага прыняцця рашэнняў і іх імплементацыі.

***— Што кажуць сацыялагічныя агенцтвы, якія праводзяць замеры настрояў удзельнікаў апытання?***

— Пасля таго, як сацыёлагі моцна апякліся з прагнозамі ў ЗША, да іх высноў ставяцца асцярожна. Так ці інакш, пакуль апаненты ўраду ў большасці. Іх прыкладна 43–44 працэнты ад усяго італьянскага электарату. 37 працэнтаў гатовыя патрымаць прэм'ера. Іншыя яшчэ думаюць. Увогуле, антыўрадавыя забабоны цалкам лагічныя для краіны, дзе беспрацоўе стала складае 10–11 працэнтаў, а прыбыткі засталіся на ўзроўні 2007 года. Пра тое, што Рэнцы, хутчэй за ўсё, прайграе, сведчаць і біржавыя навіны. Там назіраецца імклівае падзенне італьянскіх урадавых бонаў.

Аднак пакуль нічога дакладна сказаць нельга. У тым ліку таму, што Рэнцы актыўна працуе з электаратам на Поўдні. Яго жыхары баяцца росту ўплыву папуліcцкай партыі «Ліга Поўначы», якая абяцае татальна скараціць субсідыі для беднага Поўдня. У выпадку сыходу Рэнцы «Ліга» атрымае шанец увайсці ва ўрадавую кааліцыю. У дадатак пры цяперашнім урадзе колькасць беспрацоўных трошкі скарацілася, і гэта прымушае італьянцаў ставіцца да абяцанняў Рэнцы з большым даверам.

***— Ці пойдзе Рэнцы ў адстаўку ў выпадку правалу на рэферэндуме? Якая палітсіла ўзначаліць новы ўрад?***

— Апошнім часам актывізаваўся Сільвія Берлусконі і яго партыя Forza Italia. Гледзячы па ўсім, ён марыць вярнуцца ў палітыку, прычым адразу заняць пасаду прэм'ера. Але, паводле сацыёлагаў, лепшыя шанцы зараз у Грыла. Аднак спачатку будзе тэхнічны ўрад, і толькі пасля — парламенцкія выбары. Праўда, у выпадку перамогі Рэнцы выбары таксама не выключаныя. Прэм'ер можа паспрабаваць замацаваць сваю перамогу.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Жозэф Кабіла



Прэзідэнт Дэмакратычнай Рэспублікі Конга пагадзіўся прызначыць прэм'ерам краіны аднаго з лідараў апазіцыі Сэмі Бадзібанга. Гэтае прызначэнне як мінімум на нейкі час здымае з павесткі дня пагрозу грамадзянскай вайны, пра якую шмат казалі апошні часам.

Нагадаем, што ў верасні Кабіла ў чарговы раз адтэрмінаваў прэзідэнцкія выбары па тэхнічных прычынах, што апазіцыя трактавала як спробу ўзурпацыі ўлады. Беручы пад увагу тое, што ў Конга слабая дзяржаўная вертыкаль, а кожны этнас і партыя маюць свае параміліятарныя структуры, 19 снежня (дзень фармальнага заканчэння прэзідэнцкай кадэнцыі Кабілы) загадзя лічыцца днём пачатку новай вайны, якая магла перакінуцца на суседнія краіны. Дзякуючы ціску Захаду, які пагражаў Кабілу і яго атачэнню асабістымі санкцыямі, той пагадзіўся на дыялог улады і апазіцыі, у межах яго бакі дасягнулі кампрамісу.

Праўда, прэса не верыць, што крызіс будзе вычарпаны. Бадзібанга мае слабы аўтарытэт у вачах іншых апазіцыянераў. Хутчэй за ўсё, яго прызначэнне прывядзе да разборак унутры апазіцыі. Так ці інакш, новая канфрантацыя непазбежная, і пачнецца ўвесну 2018-га, калі павінны нарэшце прайсці выбары прэзідэнта. Між тым, не чакаючы выбарчай кампаніі, паўстанцы з групоўкі М23, якая аперуе на ўсходзе краіны ў нядзелю пачалі вайсковыя дзеянні супраць урадавых войскаў.

### Віктар Януковіч



Былы кіраўнік Украіны, які хаваецца ў Расіі, прыняў удзел у арганізаваным украінскай пракуратурай відэадопыце па справе забойстваў на Майдане ў лютым 2014 года. Насуперак прагнозам, экс-гарант выступаў абсалютна не агрэсіўна і часам нават пагаджаўся з тэзісамі пракуратуры. Кульмінацыяй стала яго прабачэнне перад роднымі забітых падчас тых падзей.

Выступ Януковіча справакаваў шквал пытанняў. Чаму Януковіч не выкарыстаў унікальны шанец, каб публічна і на ўвесь свет абвінавацiць сваіх праціўнікаў? Чаму ён не адкрыў ніводную са сваіх «сакрэтных тэчак», не прадэманстраваў дакументы, не назваў прозвішчы тых палітыкаў, хто вёў з ім сакрэтныя перамовы, прапануючы абмен: здаць Майдан за высокія пасады? Такога кшталту пытанні ставіць сёння прэса.

Варыянтаў адказаў шмат, аднак, у прынцыпе, усе пагаджаюцца: Януковіч даў зразумець пра намер вярнуцца ва Украіну. Адзін з варыянтаў рэпатрыяцыі асцярожна агучаны падчас допыту: функцыя пасярэдніка на Данбасе. Праўда, нават самыя ваяўнічыя крытыкі майданаўскага рэжыму прызнаюць, што вяртанне Януковіча, калі яно адбудзецца, будзе падобна на вяртанне ў Францыю пасля рэвалюцыі прадстаўнікоў каралеўскай дынастыі Бурбонаў, пра якіх сучаснікі казалі: «Яны нічога не забылі і нічому не навучыліся».

### Радрыга Дутэртэ



Прэзідэнта Філіпінаў назвалі рэінкарнацыяй славутага Фідэля Кастра, які памёр 25 лістапада. Усё таму, што 29 лістапада Дутэртэ ледзь не стаў ахвярай замаху. Невядомыя заклалі бомбу на шляху яго картэжу. Некалькі чалавек з аховы былі забітыя.

CNN мяркуе, што выбух звязаны з радыкальнымі ісламіцкімі групоўкамі, якія дзейнічаюць на тэрыторыі краіны. Існуе і іншая версія — у апошні час у філіпінскага лідара абвастрыліся адносіны з заходнімі краінамі: найперш з ЗША, якія абвінавачваюць яго ў празмернай жорсткасці ў барацьбе з наркагандлярамі. У сваю чаргу, Дутэртэ назваў Абаму «сучыным сынам». Таксама прэзідэнт заявіў, што прыйшоў час адмовіцца ад арыентацыі на ЗША, праводзіць самастойную знешнюю палітыку, умацніўшы супрацоўніцтва з Расіяй і Кітаем.

Усё гэта крыху нагадвае старонкі былога амерыкана-кубінскага супрацьстаяння, падчас якога ЦРУ неаднаразова спрабавала забіць Фідэля Кастра. Праўда, сам Дутэртэ схіляецца да версіі пра ісламскі след. Каментуючы замах, ён прыгразіў ісламскім радыкалам і яшчэ раз падкрэсліў, што Злучаныя Штаты застаюцца галоўным стратэгічным саюзнікам яго краіны.

# Беларускі «LIFE»

## Пра што пісаў самы папулярны глянец міжваеннай БССР

Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**Часопіс «Чырвоная Беларусь» выходзіў у 1930–1933 гадах у Мінску. На яго старонках друкаваліся матэрыялы аб актуальных падзеях грамадска-палітычнага жыцця міжваеннай савецкай Беларусі. Выданне было заснавана Саюзам пісьменнікаў Беларусі, а яго рэдактарамі былі спачатку Міхась Чачот, а пазней Мікола Хведаровіч (Чарнушэвіч).**













### Пра слупы і памежнікаў

Паводле структуры часопіс нагадваў амерыканскага сабрата «LIFE». У «Чырвонай Беларусі» друкаваліся артыкулы і нарысы, прысвечаныя розным аспектам сацыяльнага, культурнага і палітычнага жыцця міжваеннай БССР. У якасці ілюстрацый выкарыстоўваліся не толькі фотаздымкі, але і малюнкі. Адной з найбольш папулярных тэмаў часопісу на працягу ўсяго яго існавання была савецка-польская мяжа, якая праходзіла побач з Мінскам.

«Павярніцеся налева. Адзін супраць другога стаяць два слупы. Вялікія. Моцныя. Дубовыя. Адзін чырвона-зялёны. Другі бела-малінавы (насамрэч, бела-чырвоны. — І.М.). Падыміцеся на пагорак. Гляньце. Вунь яшчэ такая ж пара далей… яшчэ… яшчэ… Жывое цела зямлі разрэзана, раздвоена гэтай доўгай, доўгай рыскай слупоў. […] Адзін супраць другога стаяць слупы. На чырвона-зялёным на чыгуннай дошцы адліты серп і молат і толькі чатыры літары «БССР». […] На бела-малінавым таксама чыгунная дошка, а на ёй біблейская белая птушка раскінула ў бакі драпежныя лапы з выпушчанымі кіпцюрамі. Надпіс «Rzeczpospolita Polska».

Слупы стаяць адзін супраць другога і паміж імі ўсяго тры метры. Мяжа. Дзе ж сцяна, што перашкаджае, не спяшаючыся, спакойна, або рыўком пераскочыць гэтыя тры метры паміж слупамі? Што стаіць на шляху паслугачоў Пуанкарэ і Пілсудскага? Людзі. Такія ж, як вы і я, як мільёны нас; людзі, пасланыя намі і апранутыя ў шэрыя шынялі і зялёныя шапкі. Людзі, якія і ўдзень і ўначы, зімой і летам, у мароз і завіруху, у дождж і спякоту, не спяць, уважліва прыслухоўваюцца да кожнага шолаху, углядваюцца ў кожны куст. Людзі, якіх мы, іх паслаўшыя, успамінаем вельмі рэдка і аб жыцці якіх ведаем вельмі мала», — адзначалася ў артыкуле «Ля чырвона-зялёных слупоў», надрукаваным у часопісе ў 1930 годзе.

Аўтары выдання вельмі часта выязджалі на мяжу з «буржуазнай» Другой Рэччу Паспалітай і апісвалі жыццё памежнікаў, савецкіх калгаснікаў, якім давялося жыць «на мяжы цывілізацыі». У адным з артыкулаў нейкі Я. Шкадарэвіч апісваў, як жыхары вёскі Слабада ля Дрысы назіралі за трактарамі, якія працавалі ў памежным савецкім калгасе «Пралетарый».

У той час у Заходняй Беларусі механізацыя сельскай гаспадаркі была на вельмі нізкім узроўні. На гэтых супярэчнасцях спрабавалі гуляць бальшавікі. Маўляў, глядзіце браты з-за кардону, як жыве савецкая Беларусь. Дарэчы, паводле ўспамінаў шматлікіх жыхароў заходнебеларускіх вёсак, савецкія ўлады часта ладзілі прапагандысцкія акцыі на «рыжскім кардоне». То мітынг зладзяць, то ансамбль пад самыя слупы паставяць, і той спявае «Інтэрнацыянал», ды так, каб у Брэсце-на-Бугу было чуць.

«Там, па той бок дзяржаўнай мяжы, сяляне аднаконнымі плугамі аруць вузкія свае палоскі зямлі. Чуюць гул трактароў на шырокіх калгасных палях ды бадзёрую рэвалюцыйную песню калгасніцаў, часта прыпыняюць сваіх коней і прагнымі вачыма глядзяць на Савецкую Беларусь», — пісаў таварыш Шкадарэвіч у артыкуле, надрукаваным у «Чырвонай Беларусі».

Зразумела, што гэты пафасны тон быў далёкі ад рэчаіснасці. З аднаго боку, частка жыхароў усходніх ваяводстваў Другой Рэчы Паспалітай, наслухаўшыся прапагандыстаў КПЗБ, сапраўды бегла ў БССР. Аднак большасць з тых, хто жыў на мяжы з Савецкім Саюзам, праз перабежчыкаў з савецкай Беларусі ведалі пра жудасную калектывізацыю, голад пачатку 1930-х гадоў, рэпрэсіі НКУС, таму на гэтых людзей расповеды агітатараў з Усходу не дзейнічалі.

У адным з нумароў часопісу друкавалася інфармацыя пра адкрыццё новай аглядальнай залі мытні на станцыі Негарэлае. У 1930-я гады гэты памежны пункт быў адным з найбольш важных на заходняй мяжы СССР. Мытная зала была аздоблена пано мастака Валянціна Волкава, на якім былі выявы «калгаснага будаўніцтва» і Днепрабуду. Акрамя гэтага, тут была вялікая мапа, на якой адзначаліся паказальнікі выканання ў СССР пяцігадовага плану. Улады СССР хацелі, каб госці з замежжа ўбачылі тэмпы развіцця эканомікі савецкай краіны. Пра тое, якім коштам гэта адбывалася, ніхто, безумоўна, не казаў.

### Абарона і праца

Улічваючы памежны статус БССР, амаль у кожным нумары «Чырвонай Беларусі» былі справаздачы аб функцыянаванні гарнізонаў Чырвонай Арміі, размешчаных у Беларусі, а таксама інфармацыя пра манеўры, на якіх чырвонаармейцы рыхтаваліся да абароны рэспублікі. Вялікая ўвага ў выданні надавалася крытыцы буржуазных суседзяў СССР. Аўтары шкадавалі працоўных і сялян на тэрыторыі Польшчы, Францыі, Германіі і іншых краін.

«Галоўныя ўдары белага тэрору накіраваны супраць авангарду рэвалюцыйнага руху — кампартыі. Разумеючы, што змаганне працоўных мас пад кіраўніцтвам кампартыі давядзе да перамогі гэтых мас, да пагібелі капіталістычнага ладу, фашызм прымае ўсе меры, каб фізічна знішчыць камуністаў, робіць гэта з мэтай, каб вырваць з карэннем кампартыю з працоўных гушч, пазбавіць іх рэвалюцыйнага кіраўніцтва, запрэгчы іх у калясніцу сваёй палітыкі эксплуатацыі, вайны, голаду, беспрацоўя», — адзначалася ў артыкуле «У краіне белага тэрору», які быў прысвечаны сітуацыі ў Другой Рэчы Паспалітай.

У жніўні 1930-га амаль увесь нумар «Чырвонай Беларусі» быў прысвечаны адной з галоўных падзей у жыцці міжваеннай БССР, а менавіта адкрыццю Першай усебеларускай сельскагаспадарчай і прамысловай выставы ў Мінску. На вокладцы выдання быў вялікі здымак галоўнага корпусу беларускай ВДНГ. «Пад выставу адведзена плошча ў 75 га. […] Наша задача — упэўніць селяніна, што выхад з жабрацкага становішча, у якім ён яшчэ знаходзіцца, толькі ў пераходзе ад карлікавай гаспадаркі да буйнога землеробства», — падкрэслівалася ў выданні.

### Архітэктура і быт

Асобная група матэрыялаў была прысвечана архітэктурнаму будаўніцтву ў БССР. Амаль у кожным нумары былі здымкі новых будынкаў, якія ўзводзіліся ў розных гарадах савецкай Беларусі. Аднак найбольшая ўвага надавалася сталіцы.

«Стары Мінск хутка зменіць свой знешні выгляд. Паміж старажытным, заняпалым, дробна-шляхецкім «губернскім горадам Мінскам» і нашым цяперашнім пралетарскім Мінскам — сталіцай савецкай Беларусі — велізарная бездань. Вялікую ролю ў гэтым адыгрывае новы змест і афармленне будынкаў. Прыватнаўласніцкія палацы, якія будаваліся раней як і «прыбытковыя дамы», разам з прылізанымі казённымі афіцыйнымі будынкамі губернскіх устаноў замяняюць будынкі новых тыпаў: працоўныя клубы, новыя навукова-даследчыя ўстановы, дамы для рабочых, завадскія карпусы. […] Пройдзе яшчэ крыху часу, яшчэ шырэй разгорнецца будаўніцтва — і канчаткова знікнуць сляды старога Мінска. На іх месцы паўстане цалкам новы пралетарскі горад, цытадэль на мяжы капіталістычнага Захаду і першай у свеце краіне Саветаў», — адзначалася ў артыкуле прафесара М. Шчакаціхіна «Новы Мінск», апублікаваным у адным з нумароў «Чырвонай Беларусі».

За гады існавання выданне ператварылася ў сапраўдны летапіс БССР. І сёння часопіс «Чырвоная Беларусь» з'яўляецца крыніцай па гісторыі савецкай Беларусі пачатку 1930-х гадоў.




Хоцімск, Свята-Троіцкі сабор (1873 г.)


Канічы. Царква Раства Багародзіцы


Сабор Трох Свяціцеляў

# Край славутых пісьменнікаў і разбураных храмаў

Лявон ЦЕЛЕШ

**Падчас чарговага падарожжа з вядомым беларускім фатографам і мастаком Уладзімірам Цвірко мы наведалі Магілёўшчыну.**

## Крычаў

Старажытны беларускі горад Крычаў упершыню згадваецца ў 1136 годзе пад назвай Крэчут. У пачатку XVII стагоддзя маскоўскія захопнікі спалілі горад і амаль усіх жыхароў вывезлі ў Маскоўю. У канцы XVIII стагоддзя расійская імператрыца Кацярына II падаравала горад і староства графу Пацёмкіну. Тут пачала працаваць суднаверф, а для суднаў вырабляліся ветразі. Крычаўскія караблі па рацэ Сож, затым па Дняпры сплаўляліся ў Чорнае мора і такім чынам папаўнялі расійскі флот.

Уваскрасенская царква, якая была пабудавана ў Крычаве ў першай палове XIX стагоддзя, у 1950-х гадах была перабудаваная ў кінатэатр, а ў 1990-я яе вярнулі вернікам. Насупраць царквы, праз дарогу, шэрай глыбай узвышаецца помнік Леніну. Позірк яго звернуты на царкву, і ён быццам запрашае наведаць храм.

Крычаў упрыгожвае палац Пацёмкіна і Галынскіх, які будаваўся 9 гадоў (1778–1787 гады). Зверху палац нагадвае літару «Е» — першую ў імені імператрыцы Кацярыны. Нашу ўвагу прыцягнула і драўляная Свята-Мікалаеўская царква. Спачатку яна была пабудавана на высокім беразе Сожа ў 1838 годзе на месцы старажытнага касцёла Св. Еліяша, а потым была перанесена ў Крычаў. Яе святар зрабіў заўвагу спадару Цвірко за тое, што ён здымаў будынак з вуліцы без яго дазволу. Мы ўспомнілі амаль аналагічны выпадак у Жлобіне, калі дырэктарка гісторыка-краязнаўчага музея сказала, што мы не маем права фатаграфаваць горад без дазволу райвыканкама, і нават патэлефанавала ў райвыканкам.

## Клімавічы

Мы наведалі Клімавічы — горад, які ўпершыню згадваецца ў XIV стагоддзі і мае адзін з прыгажэйшых у Беларусі гербаў: «У блакітным полі залатая пчала». Герб быў дараваны гораду ў 1781 годзе. З архітэктурных помнікаў увагу прыцягвае Свята-Міхайлаўская царква, помнік архітэктуры позняга класіцызму, пабудаваная ў 1867 годзе, а таксама помнік драўлянага дойлідства — сядзібны дом князёў Мяшчэрскіх (1867), у якім зараз размяшчаецца раённы краязнаўчы музей.


Магілёўская ратуша

З Клімавічаў мы праехалі ўздоўж мяжы з Расіяй. У вёсцы Мілаславічы дзейнічае цагляная Свята-Пакроўская царква, пабудаваная ў 1866 годзе. Калісьці расійскі імператар Аляксандр III падараваў царкве ікону Хрыста Збаўцы.

Наведванне вёсак Клімаўшчыны пакінула глыбокі смутак. Ад царкоўных будынкаў засталіся руіны. За гады савецкай улады храмы былі разрабаваныя, ператвораныя ў склады ўгнаенняў, зерня, прыйшлі ў поўны заняпад і пачалі разбурацца. Крыху лепшы лёс выпаў храмам, размешчаным у гарадах. Іх ператтваралі ў клубы, у адміністрацыйныя будынкі, а часам у турмы — і яны зберагліся.

## Хоцімск

Хоцімск — самы аддалены райцэнтр на Беларусі. Упершыню згадваецца ў 1709 годзе як мястэчка Хоцімль. Тут сваёй прыгажосцю ўражвае Свята-Троіцкі сабор — помнік архітэктуры рэтраспектыўна-рускага стылю, пабудаваны ў 1873 годзе. Уваход на тэрыторыю сабора ўпрыгожвае белакаменная трохарачная брама. З 60-х да 90-х гадоў мінулага стагоддзя ў будынку сабора размяшчаўся Дом культуры. На мясцовых могілках знаходзіцца і самая ўсходняя на тэрыторыі Беларусі драўляная царква Пакрыва Найсвяцейшай Багародзіцы.

Непадалёк ад Хоцімска, у вёсцы Трасціно знаходзіцца Мікалаеўская царква, пабудаваная ў 1861 годзе. Уладзімір Цвірко сцвярджае, што яна, як і шмат іншых на тэрыторыі Беларусі, была перароблена з касцёла. Такія дзеянні расійскага царскага ўрада атрымалі асабліва шырокі маштаб пасля паўстання пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага.

## Касцюковічы

Касцюковіцкі раён не вельмі багаты на архітэктурныя помнікі. Але па колькасці пісьменнікаў Касцюкоўшчыну можна назваць Парнасам Магілёўшчыны. У гэтым куточку Беларусі з прыгожай рэчкай Бесяддзю нарадзіліся Аркадзь Куляшоў, Іван Чыгрынаў, Васіль Хомчанка, Алесь Пісьмянкоў, Аляксей Русецкі, Леанід Левановіч, Масей Сяднёў, Іван Ісачанка, Аляксей Сімукоў.

Зараз раён адметны радыяцыйнай забруджанасцю пасля Чарнобыльскай катастрофы, у выніку якой шмат населеных пунктаў зніклі з твару зямлі.

Напрыклад, вёска-прывід Саматэвічы. Там, дзе раней жылі больш чым 2000 жыхароў, цяпер цісне вушы цішыня, і толькі шумяць дрэвы на месцах, дзе былі хаты. Нават капаніры — пагоркі ад дамоў, пахаваных пасля Чарнобылю, — губляюцца сярод дрэў. Адзінае, што застаецца прыгожай зданню на месцы былой вёскі — велічны будынак Свята-Троіцкай царквы.

Жахлівае ўражанне засталося ад таго, што мы ўбачылі ў будынку. Вандаламі была пазрываная царкоўная падлога, «з мясам» вырваныя металічныя прыгожыя агароджы. Пад царквой, у былой крыпце, валяліся косткі некалі пахаваных тут святароў. Напэўна, істоты, якіх цяжка назваць людзьмі, шукалі скарбы. Побач з былой вёскай знаходзіцца мяжа з Расіяй, таму можна меркаваць, што тут шчыравалі як беларускія, так і расійскія марадзёры. Такое мне давялося сустракаць у адселеных вёсках Добрушскага раёна, куды заязджалі «гастралёры» з Расіі, якія здымалі з хат радыяцыйны шыфер, грузілі на машыны і адвозілі за мяжу.

У Саматэвічах нарадзіўся Народны паэт Беларусі Аркадзь Куляшоў. На месцы, дзе стаяла хата Куляшовых, паставілі камень-помнік. А непадалёк адтуль была зараз пахаваная вёска Мокрае. У ёй нарадзіўся адзін з найталенавітых прадстаўнікоў беларускага літаратурнага замежжа, паэт, празаік, публіцыст Масей Сяднёў, які сталінскім рэжымам быў сасланы на Калыму. У пасляваенныя гады ён жыў у ЗША. Масей Сяднёў — аўтар рамана «Раман Карзюк», а выдаць кнігу яму дапамог наш сусветна вядомы суайчыннік Барыс Кіт.

Па дарозе з Касцюковічаў у Чэрыкаў, на месцах, дзе некалі былі вёскі, ляжаць на ўзбочынах дарогі камяні-помнікі, якія нагадваюць, што тут былі вёскі.

## Слаўгарад

Старажытны горад Слаўгарад, размешчаны ў маляўнічым месцы ўпадзення ракі Проні ў Сож, упершыню згадваецца ў 1136 годзе. Горад упрыгожвае ансамбль царквы Раства Прасвятой Багародзіцы, пабудаваный у 1791–1793 гадах князем Галіцыным у стылі класіцызму. Захавалася таксама і прыхадская школа, пабудаваная ў XVIII стагоддзі. Напаследак мы заехалі ў вёску Лясная Слаўгарадскага раёна, дзе ўзвышаецца велічны Свята-Петрапаўлаўскі храм — помнік, пабудаваны ў гонар 300-годдзя перамогі рускіх войскаў над шведамі ў час Паўночнай вайны 1708 года.

## Магілёў

Амаль суткі ў нас сышло на фатаграфаванне архітэктурных помнікаў Магілёва. Упершыню Магілёў згадваецца ў 1267 годзе ў «Спісе гарадоў далёкіх і блізкіх». У час Трынаццацігадовай вайны, у 1654 годзе, магілёўцы здалі горад маскоўскім захопнікам, аднак у 1661 годзе гараджане выгналі акупантаў. І ў гэтым жа годзе гораду быў нададзены герб з выявай Пагоні.

Калісьці Магілёў быў еўрапейскім горадам з прыгожымі будынкамі і паркамі, а ратуша, якая зараз упрыгожвае Савецкую плошчу, была сімвалам вольнага горада. Узведзена яна была ў 1679–1681 гадах. Гэты ўнікальны помнік архітэктуры быў знішчаны савецкімі ўладамі ў 1957 годзе, а ў 2008-м адбылося адкрыццё адноўленай ратушы.

У Вялікую Паўночную вайну (1700–1721) расійскія войскі па загаду Пятра I горад спалілі. У выніку першага падзелу Рэчы Паспалітай Магілёў апынуўся ў складзе Расійскай імперыі.

Цікавыя ўражанні засталіся ў нас ад наведвання Свята-Мікольскага жаночага манастыра з Свята-Мікольскім саборам. Манастыр пачаў будавацца ў XVII стагоддзі, перажыў напады шведаў і рускіх войск. Пацярпеў і ў савецкі час: царкоўныя рэчы былі канфіскаваныя, іканастас сабору разбураны. З 1937 па 1941 год у саборы была турма, а пасля вайны — кніжная база. І толькі ў 1990-х манастыр пачаў адраджацца.

На вуліцы Першамайскай размяшчаецца абласны мастацкі музей. Першапачаткова ва ўзведзеным у 1903–1914 гадах у стылі «мадэрн» псеўдарускага і позняга класіцызму будынку знаходзіўся сялянскі пазямельны банк. У 1930-я гады гэтыя муры займаў Магілёўскі абкам партыі, у сховішчы якога знаходзіўся Крыж Еўфрасінні Полацкай. Бясцэнная беларуская каштоўнасць у пачатку вайны знікла, таксама як і іншыя старажытныя беларускія каштоўнасці.

На Першамайскай знаходзіцца таксама сабор Трох Свяціцеляў, які быў пабудаваны ў 1914 годзе. У 1961-м з сабора былі знесены крыжы і купалы, і тут пачаў дзейнічаць клуб завода «Строммашына». У 1989 годзе храм вярнулі вернікам.

Вылучаецца сваёй прыгажосцю касцёл Святога Станіслава, пабудаваны ў XVIII стагоддзі ў стылі заходнееўрапейскага барока, будынак драматычнага тэатра, палац архірэя Георгія Каніскага...

Вядома, мы згадалі не ўсе архітэктурныя помнікі Магілёва — гэтыя і астатнія ўвойдуць у ілюстраваныя даведнікі, якія створыць Уладзімір Цвірко.

# Эва Суса: «У Мінску адчуваю сябе крыху снежным чалавекам»

Алесь КІРКЕВІЧ

**У Мінскай абласной бібліятэцы імя Пушкіна адбылася прэзентацыя дзіцячай кніжкі «Снежны чалавек у Мінску».**



**Пісьменніца Эва Суса**

На імпрэзу адмысловая прыехала сама шведская пісьменніца Эва Суса. Была таксама аўтарка ілюстрацый Кацярына Дубовік. Кніга выйшла ў дзіцячай серыі Бібліятэкі Саюза пісьменнікаў «Каляровы ровар».

Мінск — гэта чарговая прапіска снежнага чалавека, бо ранейшыя прыгоды шведскага асілка пісьменніца ўжо апісвала — для шведаў і па-шведску. Перасяліць свайго персанажа ў беларускую сталіцу Эву натхніла падарожжа ў нашу краіну падчас прэзентацыі папярэдняй кнігі з серыі ў перакладзе на беларускую мову.

Паводле сюжэту, снежны чалавек трапляе ў Беларусь, бо яго родную пячору затапіла, а існаваць без снегу ён не дае рады. У заснежаным Мінску ён сустракае беларускамоўную міліцыянтку, яе сёстраў, якія вараць кісель у парку Горкага, ды двух хлапцоў — Алеся і Барыса. Пасля беларускіх прыгод добрая пачвара вяртаецца ў родную Скандынавію.

«Для мяне было вельмі важна, каб майго героя сустрэлі дзеці, — распавядае Эва Суса, — бо яны заўжды цікаўныя і адкрытыя для сустрэч. Апісанне гораду я ўзяла з памяці: плошча Перамогі, праспект Незалежнасці, метро… Я пра вашу сталіцу не так шмат ведаю, таму адчуваю сябе тут крыху снежным чалавекам».

Пісьменніца таксама адзначыла, што адным з прынцыповых момантаў у праекце быў удзел беларускай ілюстраткі. На гэтую працу пагадзілася мастачка Кацярына Дубовік.

«Беларуская дзіцячая літаратура больш кансерватыўная за шведскую, — тлумачыць Кацярына, — Адзін з сэнсаў «Снежнага чалавека ў Мінску» — гэта стаўленне да людзей, не падобных да нас з вамі. Кніга паказвае, як складанасці ў стасунках перамагаюцца праз ветлівасць і дабрыню».

У імпрэзе таксама прынялі ўдзел старшыня Саюзу пісьменнікаў Барыс Пятровіч ды музыка Андрусь Такінданг. Усе жадаючыя змаглі набыць кнігу пасля прэзентацыі. Разам з тым, арганізатары абяцаюць, што вельмі хутка «Снежны чалавек у Мінску» з'явіцца ва ўсіх кнігарнях.



# За правы чалавека і вяршэнства закона

## Сумесны артыкул з нагоды ўручэння прэміі

Жан-Марк ЭРО,
Франк-Вальтэр ШТАЙНМАЕР

**На гэтым тыдні Германія і Францыя ўшаноўвалі мужных жанчын і мужчын, якія па ўсім свеце выступаюць за правы сваіх суграмадзян.**

Гаворка ідзе пра такіх людзей, як бразільянка Марыя да Пенха, якая пасля нападу на яе ўласнага мужа прыкаваная да інваліднага вазка і сёння ўпарта змагаецца за абарону жанчын ад сямейнага гвалту. Як Суніта Крышнан з Індыі, што паўстае супраць прымусовай прастытуцыі і гандлю людзьмі ў сваёй краіне, дзе многіх маладых жанчын, нават дзяўчынак, прымушаюць да прастытуцыі. У Чадзе Жаклін Мудзейна вельмі мужна і з поспехам змагалася за тое, каб прыцягнуць былога прэзідэнта Хісэнэ Хабрэ да адказу за злачынствы, здзейсненыя ім падчас кіравання. Раед аль-Салех з Сірыі раней быў бізнесменам і займаўся гандлем электратэхнікай. Сёння ён — кіраўнік «Белых касак», групы валанцёраў, якія дапамагаюць выцягнуць людзей з руін пасля авіяўдараў і аднавіць разбураную інфраструктуру. Часта пры выкананні сваёй місіі яны рызыкуюць жыццём.

Усе яны — людзі з самых розных куткоў свету. Людзі, на якіх такі розны вопыт наклаў свой адбітак. Аднак ёсць тое, што іх усіх аб'ядноўвае: яны змагаюцца за правы тых, хто пабач.

Для таго, каб аддаць належнае гэтым мужным жанчынам і мужчынам ва ўсім свеце, мы вырашылі сумесна заснаваць



Германа-Французскую прэмію «За правы чалавека і вяршэнства закона». На гэтым тыдні мы ўпершыню яе ўручылі.

Гэтай прэміяй мы шануем тых, хто з вялікай самаадданай рашуча выступае ў абарону іншых людзей. Пры гэтым яны часта рызыкуюць і працуюць у вельмі складаных умовах. Гэтыя жанчыны і мужчыны заслужылі нашу падзяку і падтрымку.

Для Германіі і Францыі абарона і прасоўванне правоў чалавека з'яўляюцца цэнтральным элементам нашай знешнепалітычнай дзейнасці. Правы чалавека — гэта аснова і неабходная ўмова для міру і справядлівасці ў нашым свеце. Таму мы, як міжнародная супольнасць, пасля жудасных войнаў XX стагоддзя абвясцілі пра сваю прыхільнасць абароне і прасоўванню гэтых правоў — у рамках Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, АБСЕ, Савета Еўропы і Еўрапейскага саюза.

Цяпер, аднак, мы павінны зрабіць усё для таго, каб гэтыя вялікія дасягненні не аказваліся пад пытаннем. Мы бачым, што ў сённяшнім свеце такая пагроза іх размывання існуе — усё больш урадаў абмяжоўваюць грамадскія і індывідуальныя свабоды, прыкрываючыся меркаваннямі бяспекі, палітычнай стабільнасці ці культурных асаблівасцяў. Мы гэта назіраем і ў дэмакратычных краінах. Там, дзе арыштоўваюць журналістаў, адвакатаў і сябраў няўрадавых арганізацый. Там, дзе прысутнічае спакуса ўзвесці новыя сцены, хоць гісторыя нас вучыць, што сцены ніколі не вырашаюць праблем.

Германія і Францыя рашуча супрацьстаяць гэтаму.

Мы абодва ў ходзе нашых сумесных паездак на ўласныя вочы ўбачылі, што бывае, калі людзям адмаўляюць у іх фундаментальных правах. Таму мы па ўсім свеце выступаем за іх абарону і прасоўванне. Пры гэтым мы выкарыстоўваем увесь спектр інструментаў нашай знешняй палітыкі — ад падтрымкі мясцовых праваабаронцаў да садзейнічання дэмакратычнаму дзяржаўнаму кіраванню; ад прадухілення крызісаў да постканфліктнага аднаўлення.

Як міністры замежных спраў, мы будзем упарта працягваць барацьбу за тое, каб не толькі выяўляць выпадкі парушэння правоў чалавека, але і актыўна абараняць людзей ад абмежавання асноўных свабодаў. Барацьбу за правы чалавека мы павінны весці сумесна і на ўсіх узроўнях. А Германа-Французская прэмія «За правы чалавека і вяршэнства закона» — сімвал гэтага.

Лаўрэатамі Прэміі, прапанаванымі нашымі германскімі і французскімі замежнымі прадстаўніцтвамі, у гэтым годзе сталі: Тахміна Рахман (Бангладэш), Алег Гулак (Беларусь), Марыя да Пенха (Бразілія), Тун Сарай (Камбоджа), Максіміліен Нго Мбе (Камерун), Беверлі К. Джэйкабс (Канада), Жаклін Мудэйна (Чад), Ван Цялін (Кітай), Мантсерат Салана Карбоні (Коста Рыка), Суніта Крышнан (Індыя), Мэры Лоулер (Ірландыя), Пьетра Бартала (Італія), Эва Абу Халаве (Іарданія), Сара Белаль (Пакістан) і Валянціна Чараваценка (Расія).

Спецыяльная прэмія прысуджаецца сірыйскай арганізацыі «Белыя каскі».

КВИТАНЦИЯ

ИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

| | | | |
|---|---|---|---|
| Счет получателя | 3012741108019 | Лицевой счет | Код 739 |
| УНП* | 190790926 | | |

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| | | | | |

Период подписки указывает абонент

Плательщик

Пеня ______

Кассир

Всего ______

# Шаноўныя чытачы!

**«Новы Час» немагчыма купіць у шапіках РУП «Белсаюздрук». Няма нас і ў падпісным каталогу РУП «Белпошта».**

Але падпісацца на «Новы Час» можна. Для гэтага трэба: 1. Пералічыць грошы на наш рахунак; 2. Накіраваць копію плацёжнага дакумента на адрас рэдакцыі (220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234) ці на электронную пошту рэдакцыі (novychas@gmail.com). Альбо патэлефанаваць у рэдакцыю і паведаміць адрас дастаўкі (+375 29 9625143; +375 29 7518143; Арцём).

**Нашы рэквізіты:** рахунак 3012741108019 у Дырэкцыі ААТ «Белінвестбанка», па г. Мінску і Мінскай вобл., код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11.

**Падпісацца таксама можна ў нашым офісе, а таксама ў нашых прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 722 61 69, Міхась
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда; (8029) 666 45 29, Анатоль
**Гомель:** (8 029) 697 82 75, Аляксандр

З **1 студзеня 2016** года кошт аднаго месяца падпіскі — **3 рублі 20** капеек, **квартала — 9 рублёў.**

**ШЧЫРЫ ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА РАЗУМЕННЕ І ПАДТРЫМКУ!**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 1177

Падпісана да друку 02.12.2016. 8.00. Наклад 5000 асобнікаў. Кошт свабодны.